№ 33 (822) 4 верасня 2013
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Мільянер Тапузідзіс працягвае забудоўваць Мінскае мора.

Старонка 6.

## Ці можна памяняць брэжнеўку ў Мінску на вілу ў Іспаніі?

Старонка 5.

## Лемцюгова: Як нам вярнуць беларускія назвы?

Старонка 11.

# +2

На волю выйшлі палітвязні Зміцер Дашкевіч (на фота) і Аляксандр Францкевіч. Старонкі 2—4.

**Зміцер Дашкевіч і Наста Палажанка** абвянчаліся 31 жніўня.

# Незвычайнае каханне, незвычайнае вяселле

Афіцыйна Зміцер Дашкевіч і Наста Палажанка ажаніліся 27 снежня 2012 у гродзенскай турме. Нават пабыць разам 5 хвілін не далі пасля роспісу.

Сапраўднае вяселле маладыя зладзілі адразу пасля вызвалення Змітра. Літаральна праз тры дні, калі ягоная галава, відаць, яшчэ кружылася ад шчасця і ад сонца — ад паветра, якога ён так даўно не бачыў, бо правёў вялікую частку свайго зняволення нават не ў калоніях, а ў карцары і на этапах.

Цырымонія прайшла на падворку царквы «Ян Прадвеснік» у Мінску. На вяселле сабралася каля двухсот гасцей. Сярод іх былі жонка Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук, жонка Міколы Статкевіча Марына Адамовіч, жонка Алеся Міхалевіча Мілана, пісьменнік Уладзімір Арлоў з жонкай, часовы паверанны ў справах ЗША ў Беларусі Ітан Голдрыч ды іншыя дзеячы грамадства і культуры. Палітыкаў было вобмаль.

«Гэта было ў камеры №77 турмы на вуліцы Валадарскага, 2. Я паставіў свой кешар, дастаў з яго аркуш паперы і напісаў: «Настачка, я цябе вельмі кахаю, хачу, каб ты стала маёй жонкай, — перад усімі гасцямі расказаў Зміцер пра тое, як рабіў Насце прапанову. — Адказ прыйшоў імгненна».



### Маладыя

Жаніх — Зміцер Дашкевіч, яшчэ зацягнуты пасля турмы, бледны, як грыб-парасон — у касцюме.

Нявеста — Наста Палажанка — у белай сукенцы і вэлюме. Наста свеціцца ад шчасця. Пасля трох гадоў няпэўнасці: што з тваім каханым чалавекам у гэтую хвіліну, ці ён выйдзе жывым? А што з табой будзе: ці не пасадзяць і цябе? Ці не падрэжуць балты ў колах тваёй машыны так, што ты замест турэмных варот у Гродне пападзеш на той свет? Нарэшце можа пажыць спакойна хоць некалькі дзён, тыдняў, месяцаў. Хто ведае, колькі муж прабудзе на свабо-дзе? Такі муж, што для яго прынцыпы і гонар важнейшыя за свабоду. Дзе такі чалавек можа апынуцца ў цяперашняй аўтарытарнай Беларусі?



«Да алтара» Насту і Змітра прывялі таты.

Дашкевіч трымаўся вельмі натуральна, без ніякага пафасу. Наста была трохі стомленай — як і кожная нявеста. Бель сукенкі адценьвала яе прыродную смуглявасць.

### У чым розніца абрадаў?

Вянчаў Змітра і Насту пастар Антоній Бокун.

Цырымонія была прыгожая. Падворак убралі ў белыя і чырвоныя колеры. На сталах было поўна кветак.

Праваслаўныя і каталікі трымаюцца пэўнага тэксту, зачытваюць яго слова ў слова. У пратэстантаў пастар моліцца за маладых, за будучую сям'ю, можна сказаць, сваімі словамі.

У пратэстанцкім вянчанні меней, я б сказаў, фармалізму.

Жаніха і нявесту звычайна прыводзяць бацькі. Мама Змітра Дашкевіча памерла ад цяжкай хваробы, пакуль ён быў зняволены. А мама Насты Палажанкі памерла яшчэ калі яна была маленькай. Таму прывялі маладых таты — шчаслівыя і ўрачыстыя.

Далей у пратэстантаў маладыя расказваюць, як развіваліся адносіны. Як яны пазнаёміліся, што адчувалі. Гэта добра прыдумана: гэта дапамагае маладым асэнсаваць, яшчэ раз узважыць свой выбар, калі ты рыхтуешся гэта расказаць.

Цікава, што сведкамі лічацца ўсе прысутныя на вянчанні.

Працяг на старонцы 4.



### Самае чытанае на nn.by за 28 жніўня— 3 верасня

1 Масква афігела
2 Зміцер Дашкевіч на волі — відэа + фоты
3 На БТ паказалі затрыманне Уладзіслава Баўмгертнера: стаіць на расцяжцы
4 Дашкевіч: «19 снежня народ павінен быў вяртаць сабе ўладу»
5 На вяселле Змітра і Насты Дашкевічаў сабралася 200 гасцей
6 У Рэчыцы па-зверску забіта 19-гадовая дзяўчына
7 Анішчанка — фас!
8 Дашкевіч: Калі Пазняк выкрывае агентуру, складваецца ўражанне, што ён збег з сančасткі
9 Тэлеканал «Россия-1» прыцатаваў загаловак «Нашай Нівы»
10 У Мінску картэжу давялося спыніцца, каб прапусціць пешахода — відэа

# Зміцер Дашкевіч: **Калі б не вера, то ўскрыў бы сабе вены**

«Пайшлі на сонца пасядзім, там паразмаўляем, **хачу пагрэцца**», — прапануе мне Дашкевіч. Гэта другі дзень пасля вызвалення Змітра з гродзенскай турмы, у якой ўбачыць сонца — вялікая рэдкасць і ўдача.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Зміцер Дашкевіч**

Кіраўнік Маладога фронту. Быў затрыманы 18 снежня 2010, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі за хуліганства. У 2012 быў асуджаны да яшчэ аднаго года зняволення, нібы за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Вышаў на волю 28 жніўня 2013.

### Сонейка

На прагулку мяне выводзілі ў 8:15 раніцы, сонца яшчэ не паспявала падымацца. Толькі летам стаяў пад сонцам.

### Мы не рабакопы

Ёсць такая прымаўка турэмная, яе можна выкарыстоўваць шмат дзе: «Хто быў на зоне, той у цырку не смяецца». Калі пачуццё гумару ёсць, то яно не страціцца. Не ўпадаць жа ў роспач. Бываюць, канечне, цяжкія часіны. Ніхто ж не кажа, што мы жалезныя людзі, рабакопы і тэрмінатары. Канечне, бывае цяжка. І молішся са слязьмі на вачах. Я не лічу, што гэтага павінен саромецца.

### Мазырская «мойка»

Выклікае мяне ў Мазыры намеснік калоніі, знайшлі «мойку». Гэта такое лязо, якім зэкі ўскрываюць сабе вены. Кажа, пішы тлумачэнне. Адказваю, што не буду, бо «мойка» не мая. Пераходжу на «ты»: «Паслухай, я ж табе сказаў, што нічога пісаць не буду». Ён афігеў. Звыкся, што перад ім усе нізкапаклоннічаюць. Ён кіруе лёсамі людскімі, калі табе далі 10 гадоў, а ты можаш адседзець толькі 5, а астатнія 5 быць дома. За тэта гатовыя поўзаць на карачках. Ён палез за нейкімі кодэксамі: непавага, ты мне павінен. Адказваю: «Дык ты да мяне на «ты» звяртаешся — я думаю, што мы сябры: сустракаліся, гарбату папівалі». Пасцябаўся. Пена з роту ў яго. Перайшоў на «вы».

### Вывальвалі кішкі

Бывалі такія моманты, што калі б не вера, то ўскрыў бы сабе вены. Цудоўна разумею тых зэкаў, што рэзалі вены, вывальвалі кішкі. Яны не скончаюць жыццё самагубствам. Адна справа, калі палітычны сядзіць, на адміністрацыю калоніі нехта за яго націсне можа, а як звычайны зэк націсне? Вываліць кішкі. Адзіны сродак. Тады адміністрацыя пачынае разумець, што лепш яго ўжо больш не кранаць.

**У турме кожнага сустрэчнага ты павінен лічыць падонкам. Калі ён не даказаў адваротнага**

### Горкі

Я не сказаў, што я азлоблены. Былі беснаватыя людзі ў Горках. Я разумею, што ім не дарую і буду любымі сродкамі вырашаць. Не таму, што азлоблены, а таму, што ведаю, якія рэчы яны твораць. Прыходзяць блатныя, і яны ўсё могуць. Не толькі паламаць, але і «петушыць». Гэта для зэка самае страшнае. Чалавек увесь сіні, але будзе казаць прадстаўніку Дэпартамента: «Я паваліўся». Я пісаў і буду пісаць пра Горкі. Няхай пры гэтым рэжыме не будзе выніку, але пры змене ўлады яны адкажуць за свае злачынствы.

### Не забуду футаралы ад зубной пасты

Я нясу адказнасць за людзей, якія там засталіся. Я ніколі не забуду тыя Горкі і футаралы ад зубных шчотак, якімі нас прымушалі прымаць ежу. Гэта катаванні, калі футараламі людзі ядуць і мяшаюць каву. Але будуць есці лыжкамі, я гэтага дамагуся. Некалі Шчукін дабіўся.

### Блатныя

Блатныя парадкі ёсць паўсюль. Але розныя блатныя. У нейкай ступені гэта нармальная сітуацыя, калі людзі, што сядзяць у адным месцы па 10—20 гадоў, дамаўляюцца між сабой, вызначаюць правілы гульні. Людзі ў Горках баяцца пісаць нават па сваёй крымінальнай справе, не тое, што на адміністрацыю. Так іх зашугалі. Блатныя самі вырашаюць каму адбіць мазгі, каго ў ізалятар. Горацкае начальства спрабавала выглядаць больш-менш «пухнатым», бо чорныя справы яны твораць рукамі блатных.

### Гаў-гаў

У Мазыры «чарнуху» браў на сябе начальнік калоніі. Кажа, «ты — алкаш двойчы кадзіраваны». Збіраецца дзесяць чалавек людзей з вышэйшай адукацыяй і ўсе: «гаў-гаў-гаў-гаў». Ржуць. Потым сустракаеш па адным і кажуць: «Мы ж разумеем, што хутка ўсё скончыцца». Выслужваюцца адзін перад адным. Ніколі не любіў Карнэгі, але ён выдатна апісаў «жывёльны свет» такіх людзей з вырванымі мазгамі.

### Білі нагамі, але звярталіся на «вы»

Начальнік глыбоцкай калоніі заўсёды звяртаўся на «вы». Астатнія супрацоўнікі таксама. Яны, канечне, пінали мяне нагамі, але звярталіся на «вы». Гэта, канечне, наша ненармальная псіхалогія. Прыходзяць да мяне і кажуць: «Зміцер, вы ж не будзеце карміць нашых дзяцей». Некаторым ад сябе за шчасце паздзекавацца, а некаторым сорамна, яны потым прыходзяць і просяць прабачэння. Няшчасныя людзі. Бог ім суддзя. Зла на іх я не трымаю.

### Падонак ці нармальны

На волі да любога чалавека ты маеш крэдыт даверу: пакуль ён сваімі ўчынкамі не даказаў, што падлец і мразь, ён не вычэрпвае гэты крэдыт. Зона вучыць усяму наадварот. Кожнага сустрэчнага там ты павінен лічыць падонкам. Толькі сваімі ўчынкамі ён павінен даказаць адваротнае. Мне з гэтым было вельмі цяжка. Калі апякаешся на малацэ, то на ваду дзьмеш. Сустракаеш аднаго-двух, яны з табой нармальна, але падсвядома сядзіць думка: «Можа, перад табой мразь?» З такой псіхалогіяй нельга жыць. На радасць, абсалютная большасць людзей нармальныя.

### Усе ведаюць, хто такі Лукашэнка

У 2006-м я не сустрэў у турме ніводнага чалавека, якога давялося пераконваць, хто такі Лукашэнка, апроч начальніка шклоўскай санчасткі. На этапе ў мазырскую турму цяпер сустрэў аднаго зэка, які за Лукашэнку. Пасля ён жа смяяўся: «Я цябе надурыў. Лукашэнку раскусіў яшчэ ў 1994-м». Хочаце верце, хочаце — не верце. Ніхто. Я пераканаюся, што не засталося нікога ў краіне, хто яшчэ не ведае, хто такі Лукашэнка. Не трэба ісці ў масы, людзі і так усё разумеюць. 15% незаліністаў будуць падтрымліваць яго заўсёды, нават калі б Лукашэнка людажэрам стаў. І апазіцыю еў у жывым эфіры.

### «Я — вор» і Салжаніцын

Вольны час, канечне, быў. За дзень рабіў дзве зарадкі, два абліванні халоднай вадой па 30-60 хвілін. Былі такія эксперыменты, як малітва па 20 гадзін у суткі. Спіш і яшчэ молішся. У мазырскай калоніі ў ізалятары дазвалялі Біблію. Я 15 сутак галадаў і чытаў Біблію. Турэмныя бібліятэкі слабаватыя. Гарадскія бібліятэкі спіхваюць тое, што ім не трэба. Было шмат выданняў кшталту: «Я — вор». Кажуць, пачытай. Ды ну, атупець можна. Людзі могуць і Салжаніцына і Дастаеўскага, і Чэхава знайсці.

**Я ніколі не забуду футляры ад зубных шчотак, якімі нас прымушалі прымаць ежу. Гэта катаванні**

### Разгон рыхтавалі

Наш арышт з Лобавым перад выбарамі і разгром «Вясны» сведчаць, што рэжым рыхтаваўся да разгрому Плошчы загадзя. Каб не так, то ўзялі б мяне за маццяршчыну. Далі б мне 15 сутак, сам бы сабе потым локці грыз, што ўсё прапусціў.

### Па гуках

Я па гуках у ізалятары даведваўся, што Плошчу разагналі. І мова беларуская чулася, і словы кшталту: «Сцяг аддай». Тады ўсё стала зразумела.

### Дзякуй маме Эдуарда Лобава

Я разумеў па перадачах, хто застаўся на волі. Бачу, што Наста Палажанка не нясе. Таццяна Шапуцька — нясе, значыць, на волі, ад Касі Галіцкай — на волі, ад мамы Эдуарда Лобава — на волі. Ад мамы Эдуарда — я вельмі здзівіўся, дай ёй Бог здароўя, такая жанчына выдатная. Я думаў, што яна нешта са мной зробіць за Эдуарда, а яна перадачы мне носіць.

### Тата трымаецца

Пра смерць мамы даведаўся ў Жодзінскім СІЗА ад адвакаткі. Сказалі пісаць заяву, рукі калоцяцца. Унёс я, канечне, у гэтую заўчасную смерць сваю долю. Па вызваленні адразу хацеў прыехаць да матулі. Схадзілі на магілку з татам. Тата трымаецца, дзякуй Богу.

### Ходзіш галодны

Ежа ў турме не тое, што паганая. Вось далі кашу. Яна добрая каша. Але мне, шкілету, мала, а нармальнаму па камплекцыі чалавеку... 200 грамаў кашы. Канечне, галодны будзеш.

### Прашэнні

Кажа супрацоўнік глыбоцкай турмы: «Пішы прашэнне, навошта табе гэта?» Гэта не ціск нават. Ён проста са свайго пункту гледжання разважаў. Нашто табе сядзець, ідзі адсюль, калі такая магчымасць ёсць.

### Саннікава катавалі як нікога

Я ведаю, што Саннікава душылі ў турме, як нікога іншага. Ведаю ад яго самога, сам аналізаваў. Чалавек напісаў прашэнне, а яго яшчэ паўгода катавалі. Асабістая нянавісць. Лукашэнка прачытаў — Саннікаў у турме прэзідэнт. Ніфіга сабе! Зараз мы ім зробім прэзідэнта. Яны браліся за яго па поўнай.

### Пасля шлюбу адказнасці болей

Чаму вырашылі ажаніцца з Настай? Здаецца, гэта ж нічога не мяняе для нас. Нейкі штамп. Ніштo. Тым больш кратамі раз'яднаныя. Звычайна зэкам пасля вяселля даюць 10—15 хвілінаў пасядзець адным у пакойчыку: абняцца, пацалавацца. Мне такой магчымасці не далі. З моманту шлюбу я пачаў адчуваць іншую адказнасць. Калі раней, то я проста не пайшоў бы адзначацца ў міліцыі, бо мне начхаць, цяпер жа я так рабіць не магу.

### Нічога не мяняецца

У Мінску нічога не мяняецца. Набудаваць, канечне, могуць рознай фігні. Але сутнасць не мяняецца.

### Ахвяры

Чаму людзі выходзяць раз на 5 гадоў? Бо раз на 5 гадоў даецца мінімальны шанец прынесці ахвяру, але атрымаць вынік. Чалавек займаецца сям'ёй, гадуе дзяцей пабеларуску, зарабляе грошы. Але раз на 5 гадоў ён ідзе на Плошчу прынесці ахвяру.

**Запісаў Зміцер Панкавец**

# Аляксандр Францкевіч: **Мяне вербаваў КДБ. Хацелі, каб даў паказанні супраць Дзядка**

3 верасня **на волю** з івацэвіцкай калоніі выйшаў палітвязень Аляксандр Францкевіч. Праз пару гадзін пасля вызвалення хлопец адказаў на пытанні «Нашай Нівы».



Аляксандр з мамай Таццянай.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Як адчуванні?**

**Аляксандр Францкевіч:** Свабода *(усміхаецца)*. Што тут яшчэ сказаць? Лёгкасць. Я з сваімі сябрамі, роднымі, мне добра.

**«НН»: Думалі, што адбудзеце тэрмін ад «званка да званка»?**

**АФ:** Калі шчыра, то спадзяваўся на паслабленні. Неапраўдана. Пераацаніў слабасць, мяккацеласць рэжыму. Але я не шкадую пра зробленае, не шкадую, што прайшоў праз гэта. У турме я толькі ўмацаваўся ў сваіх перакананнях.

**«НН»: Як складаліся адносіны з іншымі зэкамі?**

**АФ:** Зэк зэку — розніца. Шмат хто супрацоўнічае з адміністрацыяй. Вядома, што такія людзі гатовыя на любы крок. Шмат людзей цынічных, беспрынцыпных. Але большасць адэкватныя прынцыповыя людзі. Спадзяюся, што з некаторымі буду падтрымліваць сувязь і пасля вызвалення.

**«НН»: А ахоўнікі?**

**АФ:** Тут неадназначна. За імі больш кантроль, чым за зэкамі. Многія прызнавалі заганнасць гэтай сістэмы. Разумеюць, куды мы ідзем. Але трэба разумець, што яны частка сістэмы. І як любая частка сістэмы — безаблічныя.

**«НН»: Вашы сябры Аліневіч і Дзядок працягваюць знаходзіцца за кратамі.**

**АФ:** Буду рабіць усё магчымае, каб інфармаваць людзей аб гэтай справе, каб хлопцы хутчэй апынуліся на свабодзе.

**«НН»: Вам прапаноўвалі даваць паказанні супраць Дзядка і Аліневіча?**

**АФ:** Супраць Дзядка. Яшчэ на этапе следства. Калі б я даў паказанні, то быў бы перакваліфікаваны з абвінавачанага ў сведку, мне пра гэта казалі простымі словамі. КДБ хацеў мець сваіх агентаў уплыву ў анархісцкім асяроддзі. Пасля 3 верасня 2010 іх не цікавіла, хто кідаў кактэйлі Молатава ў Міністэрства абароны, іх цікавілі агульныя звесткі пра анархісцкі рух, колькі там людзей, чаго яны дабіваюцца.

**«НН»: Прашэнне аб памілаванні Вам прапаноўвалі напісаць?**

**АФ:** Так, былы начальнік калоніі. Я адмовіўся. Бо тады не было ніякіх пагроз у мой бок, ціск пачаўся пазней. Але я не скажу, што ціск быў небывала моцным. Кажу гэта не для таго, каб паказаць гуманнасць рэжыму. Ціск аказваецца на ўсіх вязняў.

**«НН»: Як турэмная ежа?**

**АФ:** Такую б на волі ніхто не стаў есці, скажу так.

**«НН»: Здароўе ваша не пахіснулася?**

**АФ:** Не. Не такі вялікі тэрмін — 3 гады. Але збіраюся бліжэйшым часам прайсці вялікае абследаванне.

**«НН»: Іншыя планы ўжо маеце?**

**АФ:** Хачу перабрацца з Наваполацка ў Мінск. Фірма, на якую я працаваў да затрымання, пакінула маё працоўнае месца. У палітычнай дзейнасці працягну ўдзельнічаць у анархісцкім руху. Дзейнічаць у падполлі ўжо не атрымаецца. Але буду рабіць усё, каб нашы ідэі шырыліся сярод людзей.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Незвычайнае каханне, незвычайнае вяселле

**Працяг са старонкі 2.**

Таксама жаніх і нявеста расказваюць, якое месца з Бібліі паўплывала на іх рашэнне пра шлюб. Хто пакіне маці і бацьку, той атрымае сястру з братам і шматкроць болей, — гэтую евангельскую прыпавесць узгадаў тут Зміцер Дашкевіч.

Пастар нагадвае пра сур'ёзнасць гэтага рашэння, расказвае пра хрысціянскае разуменне шлюбу і сям'і і задае тры пытанні.

Ці добраахвотна, у вольнасці вы бераце гэты шлюб? Ці любіце і абяцаеце быць вернымі? Ці гатовыя вы несці адказнасць за дзяцей і абяцаеце выхаваць дзяцей у веры? (Разводаў пратэстанты не прымаюць і не дапускаюць.)

Далей маладыя складаюць прысягі вернасці.

Заручальныя пярсцёнкі падаваў маладым Зміцер Хведарук — былы старшыня Маладога Фронту, пасля палітрэкрут, а цяпер — настаўнік.

Пасля гэтага за маладых моляцца ўсёй царквой на чале з пастарамі. Гэтым разам сярод іх быў епіскап хрысціян веры евангельскай Сяргей Цвор. Сам у савецкі час пакутнік за веру, ён не можа не суперажываць таму, што перанеслі Зміцер і Наста. Дарэчы, ён быў адзіным высокім іерархам царквы, які прасіў дзяржаўныя органы правесці расследаванне неправавых дзеянняў адміністрацыі папраўчай калоніі № 20 Мазыра ў дачыненні да зняволенага Дашкевіча. Епіскап Цвор гаварыў простыя рэчы: прасіў шчасця для маладых, прасіў, каб у іх былі здаровыя дзеці, каб праславіўся іх род. У словах гэтага невысокага пажылага чалавека была, аднак, незвычайная сіла і вера.

Пасля ішлі віншаванні, пачастунак, забавы, нарэшце — каравай і падарункі.

### Чым кармілі на вяселлі?

Усё вяселле прыгатавалі не сваякі, а браты і сёстры маладых па царкве. Царква «Ян Прадвеснік» невялікая. У яе ходзяць каля 50 сем'яў. Таму ім дапамагалі людзі з большай пратэстанцкай царквы «Ласкі Божай», што на Гурскага.

Ежа была далікатная, але ў той жа час не экзатычная: з халодных закусак тарталеткі з салатамі, печаная гародніна, ласось на бульбе. Усё было прыстасавана, каб можна было есці а ля фуршэт.

На гарачае былі смажаныя кілбаскі з варанай бульбай. «Учора ўсе разам абіралі», — расказаў Зміцер Хведарук.

У якасці каравая быў бел-чырвона-белы торт з ружамі наверсе.

### Алкаголь

Алкаголю не было зусім. Сумна не было. Наадварот, былі спевы, і конкурсы, і забавы для дзяцей. Яны зачараваны сачылі за віншаваннем маладым «ад князя Вітаўта», пажам якога выступаў сакратар Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Дзяніс Садоўскі.

Былі і гульні з удзелам маладога і маладой. «Горка» ў пратэстантаў не крычаць.

Алкаголь як такі пратэстанты грахом не лічаць. У Амерыцы ці Германіі баптысты, хрысціяне веры евангельскай п'юць спіртное. Але паколькі ў нашай краіне ёсць праблема з алкаголем, беларускія пратэстанты не п'юць зусім.

### Колеры

Дарэчы, так супала, што Дашкевіч доўгія гады жыў, здымаў кватэру ў суседнім з царквой доме — калі там яшчэ не было царквы. Хадзіў па-пад гэтай агароджай. А пасля тут жа вянчаўся.

Шатры былі абцягнуты чыстай белай тканінай і чырвонымі стужкамі. Гэтаксама былі ўпрыгожаны крэслы і сталы. Усім гасцям раздалі белыя бутаньеркі.

На ўваходзе ў падворак і на ўваходзе ў малельны дом дзяжурылі вернікі, і гэта было хіба адзіным знакам той трывогі, якая атачала незвычайных маладых напярэдадні.

### Спадзяванне

Былі разняволенасць і радасць. Усе адчулі палёгку за маладых і трохі за сябе таксама. Можа, пойдзе на спад гэтая істэрыя, ахвярамі якой сталі і Дашкевіч з Палажанкай — цяпер ужо Дашкевічы. Можа, скончыцца ўжо гэты пераслед за веру — за веру ў беларускасць, за веру ў свабоду? Можа, Дашкевічы, і не толькі яны, але і Віняградавы, і Яроменкі, і Гарэцкія, і Шэіны, і будучыя, дай Бог, Севярынцы (пад сакрэтам скажу, што нявеста Паўла таксама была сярод гасцей), Хведарукі, Шылы змогуць спакойна гадаваць дзяцей, будаваць дамы і працаваць на славу і прыналежнасць Беларусі, замест таго каб праводзіць свае найлепшыя гады на нарах.

Ад такога спадзявання было лёгка на душы.

Але ў суседніх вакол царквы падваротнях дзяжурылі міліцыянты. У парадная, праўда, форме. Ці гэта была выпадковасць, ці такі спецыфічны, адзіны магчымы для іх спосаб праявіць павагу да нязломнага юнака і да вернай яго Настачкі.

**Андрэй Дынько**



## Сцісла

**Марш супраць абортаў**

...адбудзецца 21 верасня . Пачатак — ад Ратушы аб 11. Марш падтрымалі Праваслаўная і Каталіцкая цэрквы, а таксама Беларуская хрысціянская дэмакратыя.

**Мясніковіч сустрэнецца з Мядзведзевым у Казахстане**

24—25 верасня ў Астане, дзе пройдзе пасяджэнне Вышэйшага еўразійскага савета.

**Пры будаўніцтве «Чыжоўка-Арэны» кралі**

Арматура, цэгла, пясок, цэмент, мяккія дахавыя матэрыялы, тынкоўка, піламатэрыялы прызначаліся для выканання будаўніча-мантажных работ на аб'екце «Чыжоўка Арэна». Аднак вывозіліся на будаўніцтва катэджаў кіраўнікоў ААТ «Мінкпрамбуд» і КУП «УКБ Мінгарвыканкама». Заведзеная крымінальная справа.

**За адмову адказаць па-беларуску — штраф**

Суд Фрунзенскага раёна Мінска 3 верасня аштрафаваў дырэктара мінскага ЖЭС-48 на 500 тысяч рублёў за адмову адказаць на зварот па-беларуску. У суд на дырэктара падаў журналіст Глеб Лабадзенка.

**ЛМ**

# Ці можна памяняць брэжнеўку ў Мінску на вілу ў Іспаніі?

**Цэны на нерухомасць за межамі Беларусі.**




Сярэдняя цана прапановы квадратнага метра ў сталіцы Беларусі складае ўжо $1800 і неўзабаве можа дасягнуць дакрызіснага ўзроўню. У канцы 2007 кватэры каштавалі $2000 за метр.

Уладальнікі мінскага жылля радуюцца — штодня яны багацеюць на некалькі сотняў даляраў.

Ці можна выкарыстаць гэты рост цэнаў і абмяняць мінскую кватэру на нерухомасць за мяжой? Абтэлефаноўваем агенцтвы адно за адным і чуем аднолькавы адказ: замежнікі мінскімі спальнымі раёнамі не цікавяцца. Таму рыэлтары прапануюць спачатку прадаць жыллё, а пасля шукаць апартаменты за мяжой.

За панэльную аднапакаёўку плошчай 30 квадратных метраў у Малінаўцы нам раяць ставіць цэннік як мінімум на ўзроўні $55 тысяч. А калі побач з домам нарэшце адкрыюць метро, можна будзе смела накінуць яшчэ пару тысяч даляраў, падказваюць рыэлтары.

Будзем лічыць, што $55 тысяч (яны ж 42 тысячы еўра) у нас у кішэні. Што можна набыць за такія грошы ў іншых краінах?

### Літва: купляе хто хоча

У віленскіх агенцтвах нерухомасці з гатоўнасцю высылаюць спіс кватэраў на продаж. Квадратны метр у літоўскай сталіцы каштуе танней, чым у Мінску — каля $1500-1600. Гэта значыцца, нам пасуюць маленькія двухпакаёўкі.

Напрыклад, за кватэру плошчай 43 м² у цагляным пяціпавярховіку былога завадскога інтэрната ў спальным раёне Жырмуны просяць $36 тысяч. А за аднапакаёўку на 35 м² за некалькі кіламетраў ад цэнтра — $53 тысячы.

У курортнай Паланзе за тыя ж грошы можна прыгледзець і невялікую трохпакаёўку — праўда, далекавата ад мора.

А вось дамы прадаюцца рэдка, бо замежнікам забараняецца купляць зямельныя ўчасткі.

У літоўскага жылля ёсць істотны мінус. За камунальныя паслугі давядзецца плаціць істотна больш, чым у Беларусі, асабліва ўзімку. У халодныя месяцы кварплата ў аднапакаёвай хрушчоўцы можа дасягаць 1,5 мільёна рублёў.

Разам з тым ёсць і выгада. Папершае, гэта цана. Па-другое, магчымасць атрымаць шматразовую візу. Па-трэцяе, жыллё ў суседняй сталіцы можна разглядаць як магчымасць схавацца ад беларускіх праваахоўнікаў і падаткавікоў. Па такім шляху, як маркуюць літоўскія СМІ, пайшлі многія беларускія бізнэсоўцы — нават уласнікі крамаў «Еўраопт». Некаторыя набываюць жыллё на будучыню дзецям.

А вось прэтэндаваць на від на жыхарства толькі праз валоданне нерухомасцю нельга.

### Польшча: патрэбны дазвол

Прыехаўшы ў Польшчу нават з $100 тысячамі ў кішэні, проста так набыць кватэру не ўдасца. Замежнікам трэба атрымаць дазвол ад чыноўнікаў, а спачатку абгрунтаваць сваю сувязь з Польшчай і растлумачыць, навошта купляецца кватэра. Выключэнне робіцца для тых, хто ўжо пражыў на тэрыторыі краіны больш за 5 гадоў альбо знаходзіцца ў шлюбе з грамадзянінам Польшчы.

Бюракратычныя перашкоды спыняюць большасць ахвотных набыць нерухомасць. У дадатак на разнастайныя дазволы, рэгістрацыі і адлічэнні рыэлтарам давядзецца заплаціць каля 7% кошту жылля.

Сярэдняя цана квадратнага метра ў Варшаве складае $2300. Гэта значыць, на грошы ад мінскай аднапакаёўкі нічога не набудзеш. Ненашмат меншыя цэны і ў Кракаве.

У Беластоку за квадратны метр давядзецца заплаціць каля $1300 — удасца купіць аднапакаёўку, але большую па плошчы, чым у Мінску.

Аднак шанцы на гэта мізэрныя — замежнікам выдаецца ўсяго каля 400 дазволаў на набыццё польскай нерухомасці за год.

### Іспанія

Крызіс, які апанаваў іспанскі рынак нерухомасці, не дае спакою патэнцыйным інвестарам. Яшчэ б — кватэры і катэджы прадаюцца па мінімальных цэнах!

Іспанцы бралі крэдыты на жыллё, аднак многія з іх вярнуць грошы не змаглі. Давялося аддаваць жыллём. Цяпер банкі распрадаюць яго, каб хоць часткова кампенсаваць свае страты.

Ці можна паспець яшчэ штосьці ўхапіць са стала? Наўрад ці. У продажы найбольш прадстаўлена ўцэненае курортнае жыллё, але яно ўсё адно дарагое. Цэны за вілы пачынаюцца ад $200 тысяч. Здаваць у арэнду іх будзе складана, бо рынак і так перанасычаны. Дарэчы, каля 10% кошту жылля давядзецца аддаць у выглядзе падаткаў.

Выгадныя прапановы ў прыбярэжных гарадах. У Алікантэ пяцікапакаёўка плошчай 100 м² прадаецца за $45 тысяч. Праўда, да мора будзе далёка.

Разлічваць на дармавыя кватэры ў мегаполісах не варта. У Мадрыдзе і Барселоне квадратны метр нават у крызіс каштуе каля $4000.

Нерухомасць у Іспаніі застаецца для беларусаў прыгожай казкай, бо ў рэальнасці жыццё ў краіне даражэйшае, чым у Беларусі, а знайсці працу для мігранта неймаверна складана.

Паводле падлікаў іспанскіх статыстыкаў, сярод замежнікаў, якія летась набылі ў краіне больш за 100 аб'ектаў нерухомасці, беларусаў няма.

**Ягор Марціновіч**

**Залатая Масква**

З нашых $80 тысяч у маскоўскіх агенцтвах нерухомасці стрымана пасмяяліся. «Самыя танныя аднапакаёўкі ў нашай базе каштуюць ад $160 тысяч. З вашай сумай мае сэнс прыгледзецца да Падмаскоўя. У Арэхаве-Зуеве, Серпухаве, Каломне — 100 км ад Масквы — можам падабраць вам аднапакаёўку плошчай 35-45 м²», — прыйшоў адзін з адказаў.

## Ад 2000-га у Канаду выехаў Мядзел, у ЗША — Дзяржынск

**Беларуская статыстыка не заўважае эмігрантаў.**

Апрацаваныя вынікі канадскага апытання хатніх гаспадарак 2011 года даюць уяўлянне аб памерах эміграцыі беларусаў у Канаду за апошнія гады.

Ад 2006 да 2011 у Канаду іміграваλі крыху больш за 3 тысячы чалавек, якія нарадзіліся ў Беларусі.

Усяго ж ад 2001 да 2011 г. у Канаду эміграваλі каля 5700 беларусаў. Гэта значыць, у сярэднім з Беларусі ў краіну кляновага ліста штогод пераязджаюць жыць каля 500 чалавек. Такім чынам, ад пачатку XXI стагоддзя ў Канаду выехала каля 7000 беларусаў — прыкладнае насельніцтва Мядзела.

Беларуская афіцыйная статыстыка тым часам заніжае маштабы эміграцыі як у Канаду, так і ў іншыя краіны. У сувязі з недасканалым улікам міграцыі, Беларусь па-ранейшаму лічыцца краінай, якая мае станоўчае сальда міграцыі. Нібыта на пастаяннае месца жыхарства ў Беларусь пераехала больш лю-дзей , чым выехала з краіны ў іншыя дзяржавы.

Так, паводле звестак Белстата, ад пачатку 2000-га з Беларусі ў Канаду эміграваλі не больш за 800 чалавек. Фігуральна кажучы, дзяржава лічыць , што горад Мядзел па-ранейшаму заселены.

Падобная сітуацыя з падлікамі маштабаў міграцыі ў ЗША. Паводле звестак анкетавання хатніх гаспадарак, ад 2000 да 2010 у гэтую краіну перабраліся каля 20 тысяч ураджэнцаў Беларусі. У такім выпадку да канца 2013 сумарная колькасць беларускіх эмігрантаў у ЗША з пачатку стагоддзя цалкам дасягнула 25 тысяч — прыкладнае насельніцтва Дзяржынска. Затое па дадзеных Белстата на пошукі шчасця ў ЗША скіравалася ўдвая менш людзей.

**Інф. BISS**

## Сцісла

### Падаражэлі электрычнасць, хлеб і гарэлка

Ад 1 верасня тарыфы на электраэнергію для насельніцтва павялічаныя на 11,8%. Тым часам «сацыяльны» хлеб з канца жніўня вырас у цане на 10%, а мінімальная цана гарэлкі павялічылася на 11%, да 30 тысяч рублёў. Зрэшты, за такія грошы бутэльку і не купіш.

### У Салігорску ўсе страцілі па $50

Паводле падлікаў Белстата, у чэрвені заробкі выраслі ва ўсіх раёнах краіны, апроч Салігорскага. Там заробак-брута склаў $799 (чыстымі — $695). Але ж яшчэ ў маі сярэдні заробак дасягаў $843.

### Калгасныя знішчаныя ў 13 раёнах краіны

Ад пачатку года пагалоўе свіней у калгасах скарацілася на 84 тысячы галоваў — засталося каля 3,2 мільёна. Зусім не засталося «дзяржаўных» свіней у наступных раёнах: Ганцавіцкі, Жабінкаўскі, Маларыцкі, Віцебскі, Сенненскі, Брагінскі, Кармянскі, Лельчыцкі, Лоеўскі, Акцябрскі, Хойніцкі, Бялыніцкі, Крычаўскі. Шмат у якіх з гэтых рэгіёнаў былі знойдзеныя праявы афрыканскай чумы. Напрыклад, на Віцебшчыне і Сенненшчыне давялося забіць амаль 50 тысяч свіней.

### Чыж аддаў гатэль дзяржаве

1 верасня элітныя гатэль і рэстаран у Мірскім замку змянілі ўласніка. Ад кампаніі «Трайпл» мільярдэра Юрыя Чыжа яны перайшлі на баланс музея.

Гатэль у замку адкрыўся два гады таму. У ім налічваецца 15 нумароў, у якіх могуць спыніцца 29 чалавек. Цэны на начлег вар'іруюцца ад 70 да амаль 300 еўра.

### Рэчыцкага піва больш не будзе

Кампанія Heineken, якая валодае дзвюма вытворчымі пляцоўкамі ў Бабруйску і Рэчыцы, плануе аптымізаваць магутнасці. Вытворчасць піва і квасу ў Рэчыцы будзе спынена, абсталяванне перавязуць у Бабруйск. У Рэчыцы застануцца толькі саладоўня і склад, там звольняць каля 70 чалавек.

**ЯМ**

# Мільянер Тапузідзіс працягвае забудоўваць Мінскае мора

Пад новую будоўлю яму выдзялілі **недасяжную для іншых** зямлю.

У зацішным кутку ў лесе пад Мінскам мільянер будуе турыстычны комплекс. Два тыдні таму на ўчастку каля вёскі Зарэчча пачалі зачыстку. Высякаюць дзясяткі дрэваў: таполі, бярозы, сосны, клёны. Частка пляцоўкі — на ўзгорку. Калі тут пабудаваць дом, від на ваду будзе шыкоўны. Так і бачыцца, як Павел Георгіевіч з кубкам ранішняй кавы выходзіць на балкон палюбавацца пейзажам.

Нававбуд паўстане за 30 метраў ад вадасховішча Крыніца (разам з Драздамі і Заслаўскім выдасховішчам яно ўтварае Мінскае мора). Водаахоўная прыбярэжная паласа не парушана. Хаця, відаць, сам мільянер быў бы не супраць будаваць каля самай вады. У адным з нешматлікіх інтэрв'ю ён абураўся, чаму яму не дазволілі пабудаваць рэстаран у Robinson Club наўпрост на беразе Мінскага мора: «Я не разумею, чаму людзі па ўсім свеце могуць сядзець у прыгожых прыбярэжных кавярнях, ледзь не дастаючы нагамі да вады, пацягваючы віно, а ў нас можна глядзець на водную роўнядзь толькі здалёк?»

### Сусед Макса Мірнага

Намесніца дырэктара «Тытуньінвест» (менавіта гэтая кампанія выступае інвестарам) Вікторыя Лапшова заявіла, што яны пакуль не даюць каментароў пра будоўлю. Але адмаўляць яе факт не стала.



«Гасцявы домік» Тапузідзіса каля Robinson Club.

HIBARA.NET

Непасрэдна на месцы ведаюць не нашмат больш. У Ратамскім лясніцтве, якое займалася высечкай, адзначылі, што пад будаўніцтва забраная тэрыторыя ў 1,2 гектары (квадрат, умоўна, 110 на 110 метраў), палова з якіх падлягае высечцы.

«На аснове рашэння аблвыканкама аб выключэнні зямлі на будаўніцтва турыстычнага комплексу для экатурызму з пад'язной аўтадарогай. У праектнай дакументацыі прапісана і высечка лесу», — патлумачылі ў Мінскай лесапаркавай гаспадарцы. І папярэдзілі магчымыя размовы пра незаконнасць — усе дакументы ў парадку.

Мясцовыя жыхары лічаць, што тэрыторыя, на якой будуецца Павел Тапузідзіс, да нядаўняга часу ўваходзіла ў склад біялагічнага заказніка мясцовага значэння «Крыніца». Але для патрэбаў забудовы гэтую зямлю выключылі з ахоўнай зоны.

Між іншым, мільянер стане суседам вядомага тэнісіста Макса Мірнага. За якія пару дзясяткаў метраў знаходзіцца дом алімпійскага чэмпіёна. Праўда, сам ён прыязджае рэдка. А вось жонка з дзецьмі бавіць тут кожнае лета.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

З пляцоўкі адкрываецца від на ваду.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Суседам Тапузідзіса будзе тэнісіст Макс Мірны.

**Павел Тапузідзіс**

нарадзіўся ў Абхазіі (Грузія). Па адукацыі — інжынер-матабудаўнік. Бізнэс пачынаў з выпуску пластмасавых самалёцікаў. Затым кіраваў кааператывам «Пластыкат», які займаўся вырабам пахавальных кветак і вянкоў. Жанаты, мае сына.



TCMAGAZINE.BY

З'яўляецца старшынёй праўлення кампаніі «Тытуньінвест» — адзінай прыватнай кампаніі, якой у Беларусі дазволены выпуск цыгарэт. Кампаніі належыць у тым ліку сетка гандлёвых цэнтраў «Карона», Robinson Club, гандлёва-забаўляльны комплекс «Замак» на прэзідэнцкай трасе ў Мінску.

Падчас прэзідэнцкіх выбараў-2010 быў старшынёй выбарчай камісіі на адным з участкаў у Фрунзенскім раёне сталіцы.

### Рэзідэнцыя пад выглядам туркомплексу

Біялагічны заказнік мясцовага значэння «Крыніца» займае 178 га. Ён быў створаны для захавання натуральных умоў вырастання і пражывання рэдкіх і ахоўваных раслін і звяроў, якія ўключаны ў Чырвоную кнігу. А таксама для падтрымання аптымальнага гідралагічнага рэжыму і высокага ўзроўню вады ў вадасховішчы Крыніца. Там уведзены шэраг абмежаванняў, у тым ліку на высечку дрэваў, будаўніцтва, пракладку інжынерных камунікацый. Але нават цяпер па-за тэрыторыяй будаўнічай пляцоўкі расстаўленыя пазнакі для пракладкі газправоду.

Дарэчы, калі вывад зямлі з заказнікаў рэспубліканскага значэння патрабуе волі выключна кіраўніка дзяржавы, то тыя, што адносяцца да мясцовага значэння, выводзяцца на ўзроўні ніжэйшым.

Хаця такая практыка не новая. У 2011 на Браслаўшчыне, на беразе возера Волас Паўночны, была пабудаваная чарговая дзяржаўная рэзідэнцыя. Прычым возера ўваходзіла ў Міжазёрны ландшафтны заказнік. Але ў 2008 статус заказніка знялі, а ўвялі «асаблівыя зоны», у якія вадаём ужо не трапіў.

**Сяргей Макарэвіч**

# Імперыя не наносіць удар у адказ

Справа з арыштам Уладзіслава Баўмгертнера пераходзіць у вялацякучую фазу.

Беларускі бок заявіў аб завядзенні крымінальнай справы супраць мільярдэра Сулейман Керымава, галоўнага акцыянера «Уралкалія». Справу нават перадалі ў Інтэрпол, аднак пакуль няма падстаў меркаваць, што Расія можа выдаць алігарха.

Утрымліваецца Баўмгертнер у адзіночцы. На тым тыдні яго наведалі расійскія дыпламаты. Першы сакратар пасольства Гаўрыіл Мамантаў перадаў словы Баўмгертнера, што стаўленне да яго карэктнае, ніякіх прыніжэнняў няма. У камеру перадалі ваду з садавінай ды кнігу «Анну Карэніна». Цяпер яшчэ тэлевізар хочуць паставіць. Відаць, каб Баўмгертнер меў магчымасць назіраць за падрабязнасцямі свайго ж працэсу. На беларускіх тэлеканалах гэтая тэма ідзе галоўнай. Тады як на расійскіх проста не даходзіць да беларускага гледача **(старонка 12)**.

З рэальных крокаў расійскіх уладаў згадваецца раптоўны «рамонт» на нафтаправодзе «Дружба», што скароціць пастаўкі нафты ў Беларусь на 400 тысяч тон.

Праўда, кіраўнік расійскага дзяржаўнага нафтавага гіганта «Роснефть» Ігар Сечын запратэставаў. «Калі будуць скарачаць пастаўкі, то я пацярплю больш за ўсіх».

Паказальна, што адначасова прагучалі пагрозы Анішчанкі з Расельгаснагляда абмежаваць пастаўкі беларускага малака. Ці не самы прадказальны крок.

«Ежедневник» прагназуе, што бліжэйшым часам могуць быць арыштаваныя і беларускія мэнэджары.

У такі перыяд апазіцыйныя палітыкі вызначаюцца са сваім стаўленнем да справы. Лідар БНФ Аляксей Янукевіч назваў арышт Баўмгертнера адэкватным крокам. А вось Алесь Міхалевіч і Вольга Карач назвалі арышт «палітычна матываваным» і запатрабавалі вызвалення.




Гаўрыіл Мамантаў сустрэўся ў КДБ з Баўмгертнерам.

Лукашэнка і Пуцін пакуль ніяк не выказаліся адносна справы. Толькі памочнік Пуціна Ушакоў запатрабаваў неадкладнага вызвалення вязня «Амерыканкі». Пакуль што не прыслухаліся.

**ЗП**

**Апытанка**

**Ці Вы падтрымліваеце арышт Баўмгертнера?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 336 | 35% |
| Не | 388 | 40% |
| Не разабраўся | 235 | 25% |

Усяго прагаласавала 959

# Трое сяброў падазраюцца ў згвалтаванні і зверскім забойстве

Алеся **марыла пра дзяцей**, а загінула незамужняй.

19-гадовая Алеся 28 жніўня была на дні нараджэння ў рэстаране ў Рэчыцы. Правесці яе ўначы ўзяўся знаёмы хлопец. Справа маладая: заляцанні, абдымкі. Звычайная гісторыя. Але дадому дзяўчына так і не дайшла.

Яе знайшоў вартаўнік Дома творчай моладзі. Выйшаў ранкам на вуліцу, а ў двары, за будынкам, ляжала дзяўчына. Паўаголеная, згвалтаваная. Нежывая.

Народная пагалоска расказвае пра сляды самых розных зверстваў на целе Алесі. Па словах прадстаўніка Следчага камітэта Юліі Ганчаровай, прычыну смерці вызначыць экспертыза. Папярэдне — яна памерла ад пашкоджання ўнутраных органаў. Мноства слядоў ад удараў сведчаць, што яе моцна білі.

«Чутны былі крыкі а 1.30. Абодва мацюкаліся хвілін пяць і сціхлі», — напісаў у інтэрнэце адзін з жыхароў суседняга ад месца здарэння дома. Першым затрымалі аднагодка дзяўчыны, які яе і праводзіў. Між іншым, ён у такім веку мае адметную біяграфію: некалькі разоў судзімы. Ён быў нападпітку ў той вечар. Яшчэ двух юнакоў 19—20 гадоў правяраюць на датычнасць да забойства.

«Дзякаваць Богу, я не ведаю затрыманага. І ніхто з сябровак яго не ведае, — расказала знаёмая Алесі. — Адны кажуць, што яго сябра здаў. Іншыя, што маці сама патэлефанавала ў міліцыю...»

Але жыхары Рэчыцы ўжо ведаюць імёны ўсіх трох. І некаторыя акалічнасці іх жыцця. Сцвярджаюць, што яны былі не толькі п'яныя ў той вечар, але і ўкураныя спайсам (курыльная сумесь). Дарэчы, гэта выглядае на праўду. За лета ў Беларусі зафіксавана некалькі жорсткіх забойстваў пад наркатой: то руку з нагой адрэжуць знаёмцу, то расчляняць і закапаюць. І ўсё моладзь.

«Мы разам у школе вучыліся. Сябравалі. У суботу гулялі, а ў чацвер яе ўжо не стала. Так і не магу паверыць! — працягвае сяброўка забітай. — Алеся добрым і светлым чалавекам была. І ніколі нікому кепскага не зрабіла. У яе была запаветная мара — выйсці замуж і нарадзіць шмат дзяцей. Дзяцей моцна любіла... У яе цяпер не было маладога чалавека, з якім сустракалася б — з папярэднім не так даўно разышлася».

«Працавала яна кандытарам у рэстаране «Палессе» — кажа Марыя. — Яна ў Рэчыцы кватэру наймала з сяброўкай. А бацькі жывуць недалёка ад горада — у вёсцы Крынкі. У яе яшчэ два браты ёсць: малодшы і старэйшы».

Крымінальная справа заведзена за забойства з асаблівай жорсткасцю. Пакаранне за такое злачынства — ад васьмі гадоў турмы да расстрэлу.

**Сяргей Макарэвіч**






Цела Алесі знайшлі ў гэтым месцы. Фота Юрыя Сумарокава.

**Другое зверства ў невялікім горадзе**

Раней у Рэчыцы нашумела забойства маладой студэнткі. У чэрвені знікла 23-гадовая Ліля, без пяці хвілін выпускніца ўніверсітэта. А праз два дні затрымалі яе аднакурсніка. Высветлілася, што хлопец некалі сустракаўся з Ліляй. Адносіны не склаліся. Ён хацеў яе вярнуць. А як атрымаў адмову, у запале зарэзаў дзяўчыну. Труп вывез у лес. Яна была адзіным дзіцем у сям'і. Хлопцу, грамадзяніну Расіі, пагражае ад 6 да 15 гадоў зняволення.

**Вышук**



Расшукваецца **Настасся Кот**, 1999 года нараджэння. 28 жніўня яна пайшла з дому ў аграгарадку Сенніца Мінскага раёна і не вярнулася. Прыкметы: рост 160 см, хударлявая, валасы русыя, ніжэйшыя за плечы, вочы блакітныя, левае вуха пракалатае ў трох месцах (без завушніц). Была апранута: чорныя штаны, шэрая балоневая куртка на маланцы. Хто ведае знаходжанне зніклай, тэлефануйце на: (017) 229-04-03, (017) 229-05-90.



15-гадовая **Ірына Осіпава** 26 жніўня сышла з дому і не вярнулася. Можа знаходзіцца ў сяброў. Прыкметы: рост 167 см, валасы каштанавага колеру, ніжэйшыя за плечы, вочы карыя. Пры сабе мела пашпарт і метрыкі аб нараджэнні. Хто ведае знаходжанне дзяўчыны, тэлефануйце на (033) 666-68-56, (033) 666-60-33, 102.



**5-гадовага Рамана** не могуць знайсці два месяцы. Яго забраў у маці бацька Аляксандр Смолеў (бацькі ў разводзе) і не прывёз назад. Абодва знаходзяцца ў вышуку. Мяркуецца, што мужчына хаваецца. Яго з хлопчыкам бачылі ў Мінску, Бабруйску, Гомелі. Хто ведае месцазнаходжанне Рамана, тэлефануйце на: (029) 232-11-11, (029) 677-62-69, 102.

# Разгадку дзёрзкага злачынства адшукалі на дне Любанскага вадасховішча

Маскоўскую рабаўніцу **знайшлі забітай** у Беларусі.

Спачатку зладзеі разыгралі рабаванне, а затым нешта не падзялілі.

10 ліпеня супрацоўнікі маскоўскага аддзялення «Совкомбанка» знайшлі ўскрыты сейф. Зніклі 40 мільёнаў расійскіх рублёў, 78 тысяч еўра і 40 тысяч даляраў — у пераліку каля 1,3 мільёна даляраў. І ў гэты ж дзень знікла касірка, якая апошняя сыходзіла з банка. Западозрылі змову.

Сумневы развеялі запісы з камер. Увечары касірка раней адпусціла ахову, а замкнуць дзверы паабяцала сама. Затым адключыла сігналізацыю. А калі ў банк пад выглядам кліента зайшоў мужчына і дастаў пісталет, не надта каб і разгубілася. Хаця інсцэніравала рабаванне: разам пайшлі ў сейф, а вярнуліся з поўным пакетам. Але пакуль перад адной камерай яны манерна разыгрывалі напад, іншая запісала, як яны па-змоўніцку перамаўляліся.

Касірку знайшлі толькі праз месяц у Беларусі. 10 жніўня са дна Любанскага вадасховішча дасталі жаночае цела, звязанае ланцугом, і з металічным грузам. Нейкі час не маглі высветліць яе асобу. Дакументаў пры ёй не было. Толькі па выніку экспертыз, а затым гэта пацвердзілі родныя, забітую ідэнтыфікавалі як 38-гадовую касірку «Совкомбанка».

Ужо беларускія міліцыянты выйшлі на двух расіянаў, адзін з якіх нарадзіўся на Міншчыне. Аказалася, што забітая разам з імі ў ліпені прыехала ў беларускую сталіцу. А ў пачатку жніўня мужчыны выехалі, але без спадарожніцы.

Калі ўраджэнец Беларусі зноў наведаў радзіму, яго затрымалі. А 30 жніўня ў Тамбоўскай вобласці арыштавалі і яго-нага змоўшчыка. Менавіта апошні фігуруе на відэа з банка. Ён заявіў, што за сваю працу атрымаў мільён расійскіх рублёў, а ў банк прыйшоў з цацачным пісталетам. Але пакуль не раскрываецца, што ж рабаўнікі не падзялілі з касіркай.

**Кастусь Матушыч**



Пакуль інсцэніравалі рабаванне на адну камеру, другая запісвала зусім іншае.

## Сцісла

**Выбівалі доўг, а селі за згвалтаванне**

Пінчукі аказаліся такімі суровымі, што за 180 тысяч доўгу рашыліся на самасуд. Неяк выпівалі ўтрох, але адзін не меў чым заплаціць за гарэлку. Пачаставалі. А калі пазней прапанавалі заплаціць, грошай не знайшлося. Тады небараку «паставілі на лічыльнік» і патрабавалі ўжо 3 мільёны. Пасля пагрозы забіць і неаднаразовага збіцця пінчукі перайшлі да жорсткіх дзеянняў. Знаёмца яны пасадзілі на ланцуг у хляве, прымушалі працаваць на іх, гвалтавалі.

Сам пацярпелы ў міліцыю не скардзіўся. Але суседка пабачыла і паведаміла. У выніку аднаго пінчука асудзілі на 10 гадоў калоніі, другога — на восем.

**Узарваў кватэру, каб забіць сябе**

Выбух у кватэры на вуліцы Пляханава, 85 у Мінску звязалі са спробай суіцыду. Следчыя ўстанавілі, што 23 лютага жыхар кватэры адкрыў фаеркі газавай пліты, каб скончыць жыццё самагубствам. Калі канцэнтрацыя сумесі газу і паветра дасягнула крытычнай масы, адбыўся выбух і ўзгаранне. Тады загінулі гаспадыня кватэры і яе сын. Эксперты раскапалі, што ў нябожчыка было псіхічнае расстройства.

**Шукаюць сведкаў аварыі на Берасцейшчыне**

30 жніўня каля 12.20 на шостым кіламетры аўтадарогі Цюхінічы — Высокае «Фальксваген-Гольф» сутыкнуўся з невысветленым транспартным сродкам. Кіроўца «Фальксвагена» ад удару страціў прытомнасць, урэзаўся ў дрэва і загінуў. Брэсцкая Дзяржаўтаінспекцыя шукае грамадзян, якія праязджалі па гэтай аўтадарозе ад 11.30 да 12.30 і маюць відэарэгістратары, а таксама сведкаў аварыі. Тэлефанаваць на: (0162) 41-44-44 або 102.

**КМ**

# «Ляпіс Трубяцкой» — галоўны абеларусіцель Расіі

**На тыдні гурт паведаміў, што выпускае беларускамоўны альбом «Грай».**

«Нарэшце!» — уздыхнуў хтосьці з аптымістаў. «Дык там жа старыя песні будуць!» — выгукнуў калега-песіміст. І падлічыў, што ў гурту толькі 10 песень на беларускай мове. «Гэта з 59 на апошніх пяці альбомах!» Толькі дзве кампазіцыі будуць новыя.

Мала ці многа? Колькі ёсць. Але ці варта папракаць гурт? Так, большасць песень у рэпертуары расійскамоўныя. Канцэрты ў Беларусі, калі і яшчэ можна было тут адыграць, былі рэдкасцю — экспартны для Расіі гурт. Але, выхад гэтага альбома стане пазітыўным момантам.

На леташніх канцэртах у Мінску і Гомелі расійскія панкі з «Пургена» перапелі беларускамоўную «Belarus Freedom». У кагосьці чытаў, што на канцэртах «Ляпісаў» расійцы падпяваюць беларускамоўныя песні. А выхад цэлага альбома на беларускай мове павінен спарадзіць большы інтарэс расійцаў да нашай мовы.

Хай і бяздумнае ўзнаўленне не заўсёды зразумелых для іх слоў песень на канцэртах. Але гэта пакажа ўсходнім суседзям, што ў беларусаў свая мова, адрозная ад іхняй. А галоўнае, яна не мёртвая.

І новы кліп на беларускамоўную песню «Месяц», які гурт толькі адзняў, будзе трансляваццa па расійскіх каналах. Віват, «Ляпісы» — абеларусіцелі Расіі!

**Сяргей Макарэвіч**

Прэзентацыя альбома адбудзецца 30 лістапада ў Вільні на «Сіменс-Арэне».




# Аляксандра Герасіменя: Чытайце Быкава, там — усё…

Плыўчыха Аляксандра Герасіменя ўзяла ўдзел ва ўрачыстым адкрыцці 25-метровага басейна ў Быхаве, а таксама выступіла госцяй на круглым стале, прысвечаным Дню Беларускага пісьменства.

Адказваючы на пытанне аб літаратурных зацікаўленасцях, двухразовая сярэбраная медалістка Лондана прызналася, што захапляецца Васілём Быкавым.

«З сучасных беларускіх пісьменнікаў люблю Наталлю Батракову. Прачытала ўсе яе кнігі і з нецярпеннем чакаю наступных. Ганаруся знаёмствам.

Гэтак жа, як і з Генадзем Мікалаевічам Бураўкіным. Гэта вельмі сумленны і добры чалавек зносіны з якім даюць мне вельмі многае. Ён літаральна заказаў мяне ў Васіля Быкава.

Нядаўна перачытала «Абеліск». Мне здаецца, гэтая ваенная аповесць Быкава вельмі сучасная і актуальная. Яна пра сапраўднага мужчыну, які, не задумваючыся, аддаў жыццё за сваіх вучняў, за тых, каго вучыў добраму і вечнаму.

Гэта кніга пра выбар, пра перамогу абавязку і гонару над уласным страхам, пра тое, што чалавечая сутнасць у любы час застаецца аднолькавай.

Быкаў заўсёды ставіць сваіх герояў у экстрэмальныя абставіны і, чытаючы яго, раз-пораз пытаешся ў сябе: як ты зрабіў бы на іх месцы...

**Прессбол**





# Раптоўна памёр дырэктар ТЮГ Юрый Кулік

У ноч на 2 верасня раптоўна памёр дырэктар Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача Юрый Кулік, паведамілі ў Беларускім саюзе тэатральных дзеячаў.

Юрый Кулік — рэжысёр. На сцэне ТЮГа паставіў спектаклі «Пані Завіруха» і «Аднакласнікі». 27 мая яму споўнілася 61 год.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# У сужыцці з д'яблам

«Радыё Свабода» прапанавала дыскусію паміж Святланай Калінкінай і Аляксандрам Зімоўскім пад назвай «Журналістыка і мараль».

Менавіта так: спачатку журналістыка, потым мараль. Якая, здавалася б, розніца. Але памяняйце месцамі, і вы заўважыце істотную карэкцыю сэнсу.

Нагодай для дыскусіі стаўся абсмоктаны з усіх бакоў сыход з БТ сумнавядомай Інгі Хрушчовай. «Па маральных меркаваннях», — абвясціла былая вядучая палітычных праграм.

Адзін бок, праўда, застаўся незаўважаным: абуджэнне сумлення, калі яно ёсць насамрэч, адбываецца ў цішыні, праз цяжкае, сам-насам, усведамленне таго, што твая публічная дзейнасць нанесла шкоду грамадству. Інакш якія ж гэта «маральныя меркаванні»?

Інакш якая гэта журналістыка і якая мараль?!

Вось і Зімоўскі ў згаданай дыскусіі лічыць сыход з БТ сваёй былой падначаленай з'явай пашыранай і звычайнай, незалежнай ад месца працы.

То бок мараль тут ні пры чым.

Між тым, сам «заснавальнік, тэарэтык і практык ахоўнага кірунку ў беларускай тэлежурналістыцы», як ён заўсёды сябе падносіў, выглядае цалкам маральным. «Што асабіста да мяне, — кажа Зімоўскі, — то першае правіла — нельга хлусіць...»

Шкада, што ён не згадаў пра другое сваё правіла: нельга хлусіць груба, бачна. А вось вытанчана, па-зімоўску...

У якасці прыкладу «чэснасці па-зімоўску» нагадаю ягоныя «Прецедентные тексты августа», што калісь былі змешчаны на сайце «Беларускія навіны».

«А ў наваколлях возера Нарач, — жартуе «...тэарэтык і практык...», — замест пастаральнага аграэкатурызму нахабна квітнеў бы кангламерат ігральнага бізнэсу і сэкс-індустрыі, недасягальны для беларускіх працаўнікоў з-за візавых абмежаванняў». Яшчэ беларусы былі б

**Нельга хлусіць груба, бачна. А вось вытанчана, па-зімоўску...**



пазбаўлены задавальнення піць сноўскае малако, дрэнна спалі б ад блізкасці базы НАТА на аэрадроме ў Баранавічах, не маглі б і носа сунуць далей «Лініі Сталіна», перабудаванай, нарэшце, у адпаведнасці з прамым прызначэннем, у моцны абарончы рубеж. І наогул канчаткова згубілі б радзіму, бо не адбыліся б Белавежскія дамовы... Калі б...

Калі б 23 жніўня 1939 года «таварыш В. Молатаў і партайгеносэ І.фон Рыбентроп **не зніталі** дакумент сваімі подпісамі».

Падобна на тое, што дакумент гэты, вядомы свету як «пакт Молатава-Рыбентропа», падабаецца Зімоўскаму, бо стаўся «юрыдычнай базай для існавання Рэспублікі Беларусь у яе сучасных межах». Так і бачыш, як, выціраючы слёзы ад пакутаў за гістарычны лёс беларусаў, камуніст Молатаў і нацыст Рыбентроп кажуць, перапыняючы адзін аднаго: «А давай-ка створым для беларусаў юрыдычную базу...»

Зрэшты, калі адкінуць фантазіі, хвацкія сюжэты былога цела..., прабачце, тэлеахоўніка зводзяцца да абсалютна немудрагелістага «вынаходніцтва»: калі б не Молатаў з Рыбентропам (Сталін з Гітлерам, Савецкі Саюз з нацысцкай Германіяй), сучаснай незалежнай Беларусі, ды яшчэ ў сусветна прызнаных межах, проста не існавала б.

Такі вось гістарычны дэтэрмінізм. Прычынна-выніковая, з дазволу кажучы, сувязь.

Праблема, аднак, у тым, што гэта праўда.

Але гэта страшэнная праўда.

Для стваральніка «Прецедентных текстов...» — не страшэнная.

Больш за тое, прачытваецца дрэнна прыхаваны, прабачце, respect на адрас таварыша і партайгеносэ. А як жа інакш, калі тыя, хто лічыць гэтую праўду страшэннай, а зніталы імі дакумент — «адным з самых цынічных у сучаснай гісторыі», абвяшчаюцца «небезвядомымі фальсіфікатарамі»?! Зрэшты, у Зімоўскага яны так і застаюцца «небезвядомымі»...

Нехта, начытаўшыся ды наслухаўшыся падобнай прапаганды па-зімоўску, а мо і па сваім разуменні маральнасці, насамрэч вырашыць, што не так ужо і важна, як адбылося ўз'яднанне беларускіх земляў, хто, каго і як «вызваляў». Галоўнае — усе мы, беларусы, ад тых часоў і назаўжды разам.

Што з таго, што рана ад таго «вызвалення» і ўсяго, што адбывалася потым, не загойваецца дасюль! Калі, вядома, памятаць пра мільёны перамолатых жыццяў і зламаных лёсаў. Але такая нерэспектабельная праўда, такі гістарычны дэтэрмінізм, такая прычынна-выніковая сувязь зусім не ў духу Зімоўскага...

Памыляюцца тыя, хто лічыць гэты дух уласцівым толькі дзяржаўным медыям. Ці ж не прачытваецца ў разважаннях некаторых недзяржаўных журналістаў вакол так званай «каліійнай вайны» respect на адрас Лукашэнкі, які нібыта бароніць нацыянальныя інтарэсы? Пры ўсіх заўвагах і агаворках наконт «варварскіх метадаў»...

Між тым, добра вядома, што менавіта ў метадах, сродках, то бок у дэталях хаваецца д'ябал, які нішчыць самыя добрыя намеры ці маскіруе прыхаванае імі зло.

Але нават часовае, па выпадку, сужыццё з д'яблам гарантуе яму працяг роду.

Каб зразумець гэта і вычысціць з беларускай журналістыкі «дух чэснасці па-зімоўску», дастаткова паставіць наперадзе мараль, а журналістыку потым. Потым, потым...

*kamerton_41@mail.ru*

# Яўген Ліпковіч: **У мяне з дзяцінства былі задаткі генія**

Блогер расказвае пра адносіны з дзяржавай і апазіцыяй і тое, як у Беларусі можна **зарабляць грошы**.

Чым я ў жыцці толькі не займаўся і дзе толькі не працаваў



**Яўген Ліпковіч**

Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мінску. Скончыў фізіка-матэматычную школу, вучыўся ў БПІ. З трыццаці гадоў не працуе на дзяржаву. Жанаты, любіць жонку і дачку

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Яўген Ліпковіч — чалавек з вельмі неадназначнай рэпутацыяй, яго можна назваць самым скандальным блогерам краіны. Не так даўно Ліпковіч трапіў у часопіс Esquire, у якім рабіліся гутаркі з людзьмі з розных краін свету, доступ да блогаў якіх абмежаваны. Акрамя вострых выказванняў, Яўген эпатаваў грамадскасць «кефірнай вайной» і спаленнем кніг Мікалая Чаргінца, ёсць за ягонай спінай і балатаванне ў дэпутаты Мінскага гарсавета.

### Сабака

Мы сустрэлі Яўгена каля яго дома, у прыватным сектары. Быў ранак, у гэты час ён бегае па некалькі кіламетраў са сваім сабакам Лолай, амерыканскім бульдогам.

«Сабаку прывезлі знаёмыя, яны выкупілі яго за дзве бутэлькі гарэлкі ў нейкіх алкашоў. Ён вельмі хворы, кормім яго практычна тымі ж лекамі, што і бабулю. Гэта наш член сям'і, без яго ўжо і сям'я не сям'я. Але здраднік яшчэ той. Калі ў мяне вобшук быў, ён даваў мянтам сябе чухаць», — пачынае размову Яўген.

Пасля заходзім у дом. Паўсюль карціны вядомых мастакоў, фота і безліч кніг, падаецца, дом тоне ў іх колькасці. Пакуль аглядаем пакоі, Яўген пачынае расказваць...

### Я быў сапраўдным бунтаром

У дзяцінстве я хацеў стаць касманаўтам, ніякімі там не пажарнымі ці міліцыянерам. У сям'і дамінавалі савецкія каштоўнасці, бацькі працавалі і сумленна зараблялі на жыццё. А я вось быў вырадкам, які рабіў усё несумленным шляхам. З заўсёды з кімсьці сварыўся і быў супраць агульнапрынятых норм, быў сапраўдным бунтаром. Ува мне з дзяцінства былі задаткі генія.

### Падавалася, што зможам захапіць свет

Калі мы былі маладымі, збіраліся ў бары «Рамонак» і нам падавалася, што мы зможам захапіць свет. У нас была цудоўная тусоўка з таленавітых і творчых асоб, вось той жа Цэслер адзін чагo варты. З нашай тусоўкі выйшлі Пінігін, Малішэўскі, Глобус, Сурыновіч, Ленкін, Хацкевіч (ён скраў самалёт і нас усіх, чалавек 50, цягалі ў транспартную пракуратуру на допыты) шмат музыкаў і праграмістаў, якія, на жаль, з'ехалі.

### Паступіў і перастаў вучыцца

Да 4 класа я вельмі добра вучыўся. Пасля перайшоў у іншую школу, дзе пачаўся нейкі кашмар. Бацькі перавялі мяне ў 10-ю фізіка-матэматычную школу, на той час адну з найлепшых у Мінску, якую і скончыў. Вучыўся я там даволі пагана. Нягледзячы на гэта, перамог на алімпіядзе Маскоўскага фізіка-тэхнічнага інстытута, пераможца мог паступіць туды з ільготамі. Я паспеў зрабіць два варыянты. Для сябе і свайго сябра. Прычым яго варыянт рашыў абсалютна правільна, а ў сваім зрабіў адну памылку. Але ў выніку пайшоў у наш БПІ. Паступіў і перастаў вучыцца. Там была весялуха. Праўда, я вылецеў і адразу пайшоў працаваць да станка.

### Працаваць за станком было жахліва

...Цябе ўсе імкнуліся здаць кіраўніцтву. Праз пэўны час я зноў узнавіўся ў інстытут, але на пятым курсе ізноў вылецеў. Усё пайшло па коле, і я трапіў за станок. Працаваў на МАЗе. Зменшчык выпіваў бутэльку партвейну з гарла перад зменай, інакш працаваць не мог. Пасля была праца на «Гарызонце» слесарам кантрольна-вымяральнага абсталявання. Вельмі цяжкая праца, бо я абслугоўваў атрутныя вадкасці. Дарэчы, асноўнай валютай на заводзе былі малако і спірт. Спірт накоплівалі і маглі на нешта іншае выменьваць. Пілі ўсе страшна.

### Дзяўчаты і партвейн

Першае, што я набыў на зробленыя грошы — гэта магнітафон, а пасля друкарку. Я нават занёс некаторыя свае маленькія аповеды ў рэдакцыю «Нёмана», ім спадабалася. Але з гэтага нічога не выйшла, бо пайшлі дзяўчаты і партвейн. Пасля доўга не пісаў, а ў адзін момант прабіла.

### Калі няма навін, давайце рабіць іх самі

Я пачаў займацца блогам, дзякуючы сваёй жонцы. Яна мне прапанавала зарэгістравацца ў livejournal. Я чалавек актыўны і, дзякуючы сваім пастам, даволі хутка пачаў набіраць вялікую колькасць сяброў. Калі няма навін, давайце рабіць іх самі.

### Я проста неабыякавы грамадзянін

Я першы знайшоў, як прадалі Velcom, раскапаў сапраўдныя лічбы ў справаздачах Нацыянальнага банка і апублікаваў у блогу. Адразу пачаўся скандал. Яшчэ адна гісторыя, пра якую можна ўжо расказаць — мінулы старшыня КДБ Зайцаў зваліўся пры маім актыўным удзеле. Той палкоўнік, які застрэліўся, жыў на суседняй вуліцы. Калі прэсслужба КДБ прынялася ўсё назахабна адмаўляць, я разззлаваўся на іх хлусню і зліў журналістам дакладны адрас нябожчыка. А далей — справа тэхнікі. Не кажу пра кефір і Севастопальскі парк, які дагэтуль стаіць. Я проста неабыякавы грамадзянін. Пакуль іншыя адседжваюць дупу, я раблю.

### Можна зарабляць, калі напляваць на ўрад

Чым я ў жыцці толькі не займаўся і дзе толькі не працаваў. Апошнім часам я займаўся інвестыцыямі і даволі паспяхова. На гэтым можна зарабляць, асабліва калі напляваць на ўрад. Калі ўрад хоча, каб яму расказвалі казкі — рабіце гэта. Але заўсёды трэба думаць, што робіш.

Зараз я практычна на «пенсіі», працягваю нешта рабіць, але з мінімальнай рызыкай. А жонка працуе і даволі паспяхова. Яна лідар у адной з галін у будаўнічай сферы. Я заўсёды займаўся толькі той працай, якая падабаецца. Ты ніколі не заробіш шмат грошай на той працы, якая табе недаспадобы.

### Ніколі не дазволю дзяржаве сябе падмануць

Я заўсёды падкрэсліваю, што з 30 гадоў прыпыніў працу на ўладу. У той час я ажаніўся і звольніўся з «Гарызонта». Пасля ні разу на дзяржаву не працаваў, толькі на сябе. Я даў сабе слова, што ніколі не дазволю дзяржаве сябе падмануць. Дагэтуль трымаюся слова.

### Будзьце асцярожнымі, сачыце за словамі

Мяне і маю сям'ю правярала падатковая інспекцыя. Але ніякіх парушэнняў яны ніколі не знаходзілі.

### Трапіў пад артыкул

У мяне некалі атрымалася трапіць пад артыкул аб незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці. Яшчэ па заканадаўству БССР. Мае знаёмыя, тры браты, арганізавалі ў 80-х падпольную студыю аўдыёзапісу. Куплялася валюта на чорным рынку, замежным студэнтам даваліся грошы, яны ехалі на канікулы ў Заходні Берлін і прывозіліся адтуль кружэлкі. І гэтыя кружэлкі тыражаваліся на ўвесь Савецкі Саюз. Яны захапілі ўсю Расію. І я ва ўсім гэтым браў удзел. У выніку братоў пасадзілі. Цяпер яны жывуць у Нью-Ёрку і маюць адну з самых вядомых крамаў у Амерыкі з рускамоўнай музыкай. Пра гэтую справу пісалі нават у газетах. Якубовіч тады напісаў артыкул «Чорныя дыскі» ў «Знамени юности»

### Падпольнае выданне кніг

Яшчэ тут адбывалася падпольнае выданне кніг. Калі ў мяне дома быў вобшук (1982 год), я страшна баяўся, што знойдуць Салжаніцына, яго «Архіпелаг Гулаг», бо за гэтую кнігу 3 гады давалі. Але не знайшлі. Фотастужкі з кнігай былі схаваны ў ванне.

### Атрымалі пасады, але не ведаюць, як усё працуе

Чыноўнікі атрымалі свае пасады, але пры гэтым не ўяўляюць, як усё працуе. Ты займаешся рынкам? Ідзі пастой на Камароўцы, паспрабуй нешта размытніць, прадаць. Ты міністр фінансаў? Ідзі паўыдавай крэдыты, папрацуй з кліентамі ў сучасным банку. Сцвярджаць, што Снапкоў, Ермакова, Праляскоўскі, а тым больш Пракаповіч, прафесіяналы — смешна.

### Я прыхільнік БНФ

Нягледзячы на тое, што я размаўляю па-руску, я прыхільнік пазіцыі БНФ. Я спадзяюся, што для іх не пусты гук каштоўнасці правоў чалавека. І мне падаецца, што яны гатовы трываць мяне і маё меркаванне.

### Для мяне ёсць толькі асабісты інтарэс

Некалі я казаў Някляеву, што нават калі яны прыйдуць да ўлады, я ўсё роўна буду да іх у апазіцыі. Я суджу па справах. Для мяне няма вечных сяброў ці ворагаў, для мяне ёсць асабісты інтарэс.

### Чыноўнікі не вераць у Бога

Чыноўнікі не вераць у Бога, для іх Божыя Прыказанні — пусты гук. Я мяркую, што ў нас хутка ўвядуць шматжонства афіцыйна. Для сябе яны яго ўжо ўвялі. Спадзяюся, што тыя людзі, якія прыйдуць да ўлады, будуць верыць у Прыказанні.

### Палітыкі ў нас няма

Палітыкаў у нас няма. Палітыкі змагаюцца за ўладу, а ў нас змагаюцца за бюджэты. Палітыкі — гэта адлюстраванне грамадства. Калі не падабаюцца гэтыя апазіцыйныя палітыкі, значыць павінны з'явіцца іншыя.

### Хай вяртаецца Пазняк, і будзе весела

Палітыка — гэта частка шоубізу. У нас ёсць адзін галоўны шоубізнэсмэн, яму нехта расказаў, што «імперыя кіруецца гучнымі словамі», ён зразумеў літаральна і крычыць на нас з тэлевізара, як калгасны пастух на сваіх кароў. Вось я спадзяюся на тое, што хутка з'явіцца той, хто гэтае шоу разбавіць. Я ўпэўнены, што наверсе таксама чакаюць і баяцца. І хай вяртаецца Пазняк — будзе весела. Тут яму ўжо нічога не пагражае. Хай вяртаецца сюды разам з Навумчыкам і працуюць тут. Хопіць ужо трындзець з-за мяжы.

### Эпатаж-тэхналогія для дасягнення мэтаў

Вельмі эфектыўна эпатаваць публіку і тым самым дасягаць уласных мэтаў. Дзякуючы гэтаму я адстаяў Севастопальскі парк. Эпатаж — гэта тонкія тэхналогіі для таго, каб на цябе звярнулі ўвагу.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

Незалежнае грамадства Азербайджана існуе **на тых самых правах**, што і беларускае.

# Як азербайджанская апазіцыя выжывае

«А што гэта такое справа?» — пытаюся я ў таксіста, калі еду з аэрапорта імя Гейдара Аліева праспектам імя Гейдара Аліева ў цэнтр Баку, паказваю на маштабнейшы за «Мінск-Арэну» будынак.

«Музей Гейдара Аліева, — кажа таксіст. — Калі паглядзець зверху, то будзе бачны аўтограф Гейдара».

Ужо ў самім Баку старэйшы Аліеў глядзіць на мяне з білбордаў, будынкаў, нават з вышываных дываноў. Ільхама Аліева побач з бацькам няма.

Калі згадваюць сітуацыю з правамі чалавека і дэмакратыяй у постсавецкіх краінах, то Беларусь заўсёды ставяць у адзін шэраг з Азербайджанам. Дэмакратыі меней, чым ва Украіне ці Малдове, але і не таталітарызм Узбекістана ці Туркменістана.

**«Мусават»**

Старшыня партыі «Мусават» Іса Гамбар прапануе сустрэцца ля праспекта Азадлыг (Свабоды). Гэта зусім не цэнтр горада, стаяць яшчэ савецкія панэлькі. Але ўжо і сюды дабіраецца раскоша з цэнтра. Недалёка адбахалі фантастычны будынак Цэнтравыбаркама, будуецца сучасная гасцініца, усё перакапана.

Раней офіс «Мусавата» («Роўнасць») знаходзіўся ў цэнтры Баку, але ўлады забралі ў партыі памяшканне, адсялілі далей з вачэй. Вельмі нагадвае сітуацыю з мінскай сядзібай БНФ.

Гамбар сустракае ў сваім кабінеце. На сцяне вялізны партрэт Мамеда Расулзадэ, заснавальніка партыі. Расулзадэ быў адным з рухавікоў абвяшчэння ў 1918 годзе Азербайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Пасля ўсталявання ў краіне савецкай улады быў арыштаваны супрацоўнікамі ЧК, але вызвалены асабістым загадам Сталіна. Дзесяці з год Расулзадэ адпрацаваў у Маскве, у наркамаце нацыянальнасцяў, аднак потым уцёк на Захад. У Польшчы ён, дарэчы, пабраўся з пляменніцай Юзафа Пілсудскага Вандай.

«Мусават» дзейнічаў у эміграцыі аж да развалу Савецкага Саюза. Ужо потым кіраўніцтва перадалі прадстаўнікам метраполіі. І менавіта гісторык Іса Гамбар узначаліў партыю. Праўда, за сто гадоў змянілася ідэалогія. Паўставаў «Мусават», як сацыял-дэмакратычная партыя, сёння ж яна хутчэй кансерватыўная.

**«Раней свабоды было больш»**

«Ільхамаўскі рэжым больш рэпрэсіўны, чым гейдараўскі. Ён менш цярпімы да апазіцыйнай дзейнасці. Свабоды ў Азербайджане здушаны нашмат больш, чым у 1990-х. Раней была магчымасць праводзіць мітынгі, працаваць з выбаршчыкамі. Цяпер жа такой магчымасці няма», — кажа Гамбар, зацягваючыся цыгарэтай.

## Апазіцыйным журналістам выдаюць кватэры, на роўных з дзяржаўнымі

Палітык узгадвае сваіх беларускіх сяброў, якія знаходзяцца прыкладна ў такой жа сітуацыі — Вінцук Вячорка, Аляксандр Мілінкевіч.



**Лукашэнка называе палітычных апанентаў «адмарозкамі», Ільхам — «унсюр», «паразітамі»**

Партрэты Гейдара Аліева ў Баку паўсюль

Лідар «Мусавата» быў у Мінску на святкаванні Дня Волі ў 2007-м. «Мы ішлі з цэнтра, але нам не далі дарогі. Тым не менш мы дабраліся да месца мітынгу, было вельмі шмат людзей». Тое 25 Сакавіка сапраўды было шматлюдным.

«На Захадзе абвясцілі Беларусь крайняй апошняга еўрапейскага дыктатара. На Азербайджан усё яшчэ глядзяць як на краіну, дзе магчымы рэформы. Ідзя такая, што азербайджанскія ўлады ўвесь час знаходзяцца пад ціскам Ірана і Расіі, яны, нават калі хочуць дэмакратыі, то павінны быць асцярожнымі», — чуецца нотка крыўды.

**«Удзячны беларусам»**

У 2003 годзе Гамбар быў блізкі да перамогі на прэзідэнцкіх выбарах. Той Азербайджан яшчэ не быў разбэшчаны аграмаднымі нафтавымі грашыма. Ільхам Аліеў ішоў на першы тэрмін пасля смерці бацькі. Уладная эліта неадназначна ставілася да сына Гейдара, нават рыхтаваўся палацавы пераварот.

«У адзін дзень стала вядома, што мяне арыштуюць. Я вельмі ўдзячны славянам, што назіралі за выбарамі — чэхі, славакі, беларусы пастанавілі сцерагчы маю кватэру. Кіраваліся тым, што на вачах у назіральнікаў арыштоўваць мяне не будуць», — расказвае Гамбар.

Сёння ў ахове лідара «Мусавата» чатыры чалавекі. Падчас электаральных кампаній гэтая лічба ўзрастае ў дзесяць разоў.

**Ібрагімбекаў — кампраміс**

На кастрычніцкія прэзідэнцкія выбары апазіцыя ідзе з адзіным кандыдатам, шырокай кааліцыяй за перамены, у якую ўваходзяць, як правыя, так і левыя, як ісламісцкія, так і свецкія партыі. Менавіта ад гэтай кааліцыі і быў вылучаны адзіным кандыдатам 74-гадовы драматург Рустэм Ібрагімбекаў.

Ён стварыў сцэнары да такіх фільмаў, як «Белае сонца пустыні», «Стомленыя сонцам».

«Ібрагімбекаў – гэта кампраміс, чалавек, які ўсіх задавальняе», — кажа мне галоўны рэдактар і ўладальнік незалежнага інфармацыйнага агенцтва «Туран» Мехман Аліеў.

«У 2010 годзе апазіцыяй была створаная Грамадская палата, кансультатыўны орган. Гэта паспяховы фармат. Апазіцыя была ў працоўным рэжыме, яна ўвесь час абмяркоўвала актуальныя пытанні, праводзіліся слуханні», — працягвае Мехман Аліеў.

«Мы зрабілі апытанне ў Баку: амаль палова ведала, хто такі Ібрагімбекаў. Яны сказалі, што гэта годны, знакаміты чалавек. Але ў рэгіёнах ён не так папулярны. Ён знаёмы людзям, якія маюць высокі адукацыйны ўзровень», — кажа рэдактар інтэрнэт-тэлебачання «Тэлеканал 13» Анар Оруджоў.

**За фінансаванне апазіцыі — страта бізнэсу**

Азербайджан — краіна багатых людзей, аднак ніхто не адважваецца падтрымліваць апазіцыю. «Багатыя людзі баяцца. Ахвяраванні прыходзяць ад людзей, што жывуць за мяжой: у Расіі, у Еўропе. Кожны, каго западозраць у фінансаванні апазіцыі, страціць свой бізнэс», — кажа Мехман Аліеў.

## «Ібрагімбекаў – гэта кампраміс, чалавек, які ўсіх задавальняе»

Сярод апазіцыянераў няма багатых людзей. Вельмі часта ўвогуле мець працу для апазіцыянера — гэта вялікае шчасце. «Працуюць настаўнікамі, ёсць выкладчыкі ва ўніверсітэтах, дактарамі, інжынерамі — там, дзе ім цяжка знайсці замену», — кажа Гамбар.

**Аліеў дае кватэры апазіцыйным журналістам**

Падобная да беларускай сітуацыя ў сферы СМІ. Фактычна, цэнзура сёння адсутнічае ў газетах. Ніхто не забараняе пісаць на нейкія тэмы, аднак потым можа чакаць суд. Форма ўціску на СМІ эканамічная — забарона на даванне рэкламы.

«Рэкламы няма. Яна пад кантролем дзяржавы. 95% газет не ведаюць, што такое рэклама», — кажа Мехман Аліеў. Ён згадвае, як яму дала рэкламу адна буйная страхавая кампанія, але, пабачыўшы, пра што піша «Туран», запатрабавала зняць рэкламу, нават не вярнуўшы назад грошай.

«Ва ўрадавых газет больш падпісчыкаў, але менш іх набывае ўраздроб. У апазіцыйных выданнях усё наадварот. Абавязалаўка ідзе, што ўсе павінны падпісацца на дзяржаўныя выданні. Ёсць газеты, дзе падпіска 18 тысяч асобнікаў, а ўраздроб прадаецца 200 асобнікаў. Ёсць газета, што прадае ў дзень 35-40 асобнікаў. У год яна мела 250-300 тысяч манат прыбытку на рэкламе». Адзін манат роўны адназму еўра.

Вядома, што ў інтэрнэце незалежныя рэсурсы карыстаюцца большай папулярнасцю.

Ільхам Аліеў цудоўна гэта разумее, таму спрабуе залашчыць незалежную прэсу. У ліпені быў здадзены шматпавярховы дом для журналістаў. У тым ліку, кватэры там атрымалі і журналісты апазіцыйных выданняў. «Мы былі аднымі з нямногіх, хто адмовіўся, — кажа Мехман Аліеў. — З цябе нічога не патрабуюць. Але ты сам будзеш адчуваць, што як ты будзеш крытыкаваць дзяржаву, калі табе далі кватэру».

**57 палітвязняў**

Нават у драбніцах рэжымы Аліева і Лукашэнкі падобныя. Беларускі лідар, калі гаворыць пра палітычных апанентаў, ужывае слова «адмарозкі», Ільхам — «унсюр» («паразіты»). У парламенце няма ніводнага іншадумца.

«У краіне 57 палітвязняў», — кажа праваабаронца Аваз Хасанаў. Мы п'ем чай з маленькіх шклянак на летняй тэрасе ў чайхане ля старога горада. «Чайхан шмат, але ўсе яны ў закрытых памяшканнях, улады лічаць, што на свежым паветры збіраюцца вольналюбівыя людзі», — кажа Аваз, заядаючы чай клубнічным варэннем.

«Нядаўна арыштавалі трох маладых актывістаў. Дзевяць журналістаў у турмах. Два партыйныя лідары ў турме. Адзін з іх — лідар Ісламскай партыі — арыштаваны нібыта за шпіянаж на карысць Ірана».

Каб апынуцца на свабодзе, ад азербайджанскіх палітвязняў патрабуюць ліста аб памілаванні на імя Ільхама Аліева. «Самі палітвязні пішуць рэдка, замест іх пішуць праваабаронцы, прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці», — кажа Хасанаў. Улады часам да такіх просьбаў прыслухоўваюцца.

Можна пачуць спекуляцыі аб «усходняй спецыфіцы» Азербайджана. Маўляў, дэмакратыя ў ісламскім рэгіёне не прыжываецца. Аднак тут паўстаюць паралелі з гісторыяй. У 1918-м кіроўныя эліты Азербайджана праводзілі дэмакратычныя рэформы яшчэ інтэнсіўней, чым Кемаль Атацюрк у Турцыі. Напрыклад, Азербайджанская Дэмакратычная Рэспубліка была адной з першых у свеце, дзе жанчынам далі выбарчае права. І не было тады ніякіх паправак на рэгіён.

Іса Гамбар пры канцы нашай размовы кажа, што апазіцыю ў Беларусі і Азербайджане нельга падводзіць пад стандартныя еўрапейскія правілы.

«Для нас змаганне за дэмакратыю, за еўрапейскі выбар — гэта наша місія. Мы будзем пры любых абставінах змагацца за гэтыя каштоўнасці».

**Зміцер Панкавец, Баку — Мінск**

# Як нам вярнуць беларускія назвы?

**Ні ў адной цывілізаванай краіне свету нацыянальная тапанімія не зазнала такога глумлення, як у Беларусі. Піша прафесар Валянціна Лемцюгова.**




**Валянціна Лемцюгова**

доктар філалагічных навук, прафесар. Старшыня Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры Акадэміі Навук. Даследуе сучасную беларускую мову, анамастыку. Аўтар больш за 200 навуковых працаў.

Яшчэ і сёння на ёй ляжыць адбітак дзейнасці польскай і расійскай канцылярыі. Але найбольшы здзек учынілі савецкія ўладныя структуры. Вось як гэта здзяйснялася на практыцы.

### Аматарскі ператрус

Як заўважыў яшчэ байкапісец Крылоў, безнадзейна чакаць добрых вынікаў, калі не за сваю справу бяруцца аматары-саматужнікі. Беларусы маюць свой горкі вопыт такога кшталту.

Колькі непапраўных страт нанесена беларускай тапаніміі ў выніку бяздарных перайменаванняў! Знішчалася ўсё, што не адпавядала чыноўніцкаму ўсведамленню новай ідэалогіі або гучала як быццам не вельмі прыстойна. Але што ідэалагічна шкоднае несла ў сабе беларускія тапонімы *Ліхтэрня, Паташня, Гута, Майдан, Радацэнь*? Амаль усе яны непаўторныя і пераважна месцяць у сабе назвы старажытных беларускіх промыслаў: гута ‘прадпрыемства, дзе вырабляецца шкло’, майдан ‘смалакурня; печ для апальвання цэглы’, паташня ‘паташны завод’, ліхтэрня ‘прадпрыемства, на якім выраблялі ліхтэры — невялікія грузавыя судны тыпу баржы’. А што непрыстойнае пачулася некаму ў назве *Гавязна* Стаўбцоўскага раёна? У яе аснове ні што іншае, як назва травяністай расліны гавяз (націск на першым складзе). Стала ахвярай і старажытная назва *Мондзін* (першая згадка — 1559). Спачатку яе перайменавалі на *Сиреневка*, якая, па сведчанні Я. Адамовіча, па-беларуску стала пісацца *Сярэнеўка*. Відаць, гэта і змусіла чыноўнікаў паўторна перайменаваць яе ў *Чаромушкі*. У аснове тапоніма Мондзін — нямецкае слова монд ‘месяц’. У размоўным ужыванні так называецца лысіна чалавека. Значыць, заснавальнікам або ўладальнікам паселішча быў чалавек з такой лысінай.

А хіба можна чым-небудзь растлумачыць замену нейтральных тапонімаў *Барок, Гарбы, Двор Левандоўскага, Германава, Божы Дар*?

Ні ў адным з афіцыйных спісаў тапонімаў не быў прастаўлены націск, праз што тапонімы нярэдка прачытваліся памылкова і нават траплялі ў лік абразлівых. Прыкладам могуць служыць *Мартышкі* (націск на апошнім складзе) і *Холуй* (націск на першым складзе). У выніку пераносу націску яны па асацыяцыі з мартышкамі і халуямі падпалі пад перайменаванне. Між іншым сэнс іх бяскрыўдны. *Мартышкі* паходзяць ад асабовага імя *Мартын*, якое ўяўляе сабой размоўную форму ад афіцыйнага імя *Марцін*, а назва *Холуй* паходзіць ад слова *холуй* ‘пясчаны нанос на беразе рэкі’.

Прыкладам тапанімічных кур’ёзаў сталі перайменаванні тапонімаў *Морач* у *Савецкую Морач* і *Алёс* у *Чырвоны Алёс*. Атрымаўся ідэалагічны казус, бо *морач* азначае цёмнае змрочнае балота, а *алёс* — альхавое балота.

У працэсе пераафармлення беларускай тапаніміі на арфаграфію рускай мовы многія тапонімы страцілі першасны сэнс. Так, назва *Пральня*, якая паходзіць ад беларускага слова *пральня* ‘памяшканне, дзе мыюць бялізну’ па-расійску пераагучаная ў *Прялья* ‘памяшканне, дзе прадуць’. А тапоніму *Пранікі* ‘людзі, якія займаюцца мыццём бялізны’ нададзена гучанне *Пряники* ‘пернікі’.

Шматлікія спрадвечныя назвы замененыя нейкім ідэалагічным сурагатам тыпу *Пралетарыя, Вішнёвая, Рамашкі, Залог Пяцігодкі, Труд, Бальшавік, Камсамолец*! Хіба гэта паўнацэнныя назвы? Гэта пустыя штучныя знакі, якія не маюць дачынення ні да гісторыі паселішчаў, ні да наваколля. Калі ў паселішчах з пералічанымі назвамі з’явіцца школа, крама, дзіцячы садок, як яны будуць называцца? Як будуць называцца людзі, якія там жывуць? Ці падумаў хто пра гэта? Такія назвы прыйшлі на месца тысяч тапанімічных сведак нашай мінуўшчыны.

Маючы на ўвазе тапанімію, нямецкі філолаг Вільгельм Грым пісаў: «Ёсць больш жывыя сведчанні пра народы, чым косці, дамавіны і зброя, — гэта іх мова». У нас жа на руінах шматвяковай народнай творчасці забуяла пышная рускамоўная фантазія.

### Вёска (вуліца), як цябе называць?

Увесь гэты набор наватвораў на рускай і беларускай мове затым пачалі дасло́ўна перакладаць з мовы на мову, што ўнесла страшэнную блытаніну. Узнікла двухназоўе (*Двигатель — Рухавік, Красный Пахарь — Чырвоны Араты, Октябрь — Кастрычнік*) і тапонімы фактычна перасталі выконваць асноўную функцыю — служыць арыенцірам на мясцовасці. Падчас дыялекталагічных экспедыцый мне даводзілася гутарыць з жыхарамі двухназоўных паселішчаў. У адказ на пытанне, як усё ж называецца іх вёска, *Победитель* ці *Пераможац*, яны пацiскалі плячыма.

Тапанімічная блытаніна ўзнікла ў выніку перакладу тапонімаў з кампанентам *Красны — Чырвоны*. Назвы тыпу *Красный Большевик, Красный Маяк, Красный Октябрь* пры перакладзе зрабіліся *чырвонымі*. У гэтай каламуці цяжка вылучыць спрадвечныя *красныя* назвы, якія адносін да рэвалюцыі не маюць. Яны паходзяць ад старажытнага прыметніка красны ‘адметны прыгажосцю, харастом, маляўнічасцю наваколля’. Напрыклад, *Красная Слабада, Красны Двор, Краснаполле*. Першыя ўпамінанні аб іх у пісьмовых крыніцах адносяцца да XIV—XVI стагоддзяў, а ўзніклі яны значна раней.

І звычайная нядбайнасць можа прыводзіць да двухназоўя. Па ўсёй Беларусі сустракаюцца выпадкі, калі на двух суседніх шыльдах назва адной і той жа вёскі пішацца па-рознаму: *Валейка* і *Валяўка*, *Астрашыцы* і *Астрошыцы*, *Трашчыцы* і *Трошчыцы*.

Ад савецкіх часоў пануе анархія і блытаніна ў перакладной частцы назваў нашых вуліц. Нават добры знаўца беларускай і рускай моваў не ў стане прызвычаіцца да двухмоўя: *Крынічная — Родниковая, Вясёлкавая — Радужная, Шпалерная — Обойная*. Некаторыя самадзейныя пераклады нагадваюць анекдот. Дзяўчына напісала ліст сяброўцы. Узялася падпісваць канверт і задумалася, як назва вуліцы *Вялікі Гасцінец* будзе гучаць па-руску. Урэшце напісала: *улица Большой Подарок*. Паштоўка вярнулася з прыпіскай, што такой назвы ў горадзе няма.

Далёка не ўсе і афіцыйныя пераклады можна прызнаць адэкватнымі, бясспрэчнымі. Да прыкладу вуліца *Цагельная* перакладаецца як *Кирпичная*. А хіба вытворная аснова гэтага прыметніка — *цэгла*? Калі так, то вуліца называлася б *Цагляная*. *Цагельны* — гэта прыметнік ад назоўніка *цагельня* — «кирпичный завод». А значыць, правільны пераклад — *Кирпичнозаводская*.

І такіх выпадкаў сотні.

### Замежныя госці блудзяць у Беларусі

Замежныя грамадзяне, прыязджаючы ў Беларусь, дзівяцца і абураюцца з нашага вынаходніцтва па перакладзе назваў вуліц. Зусім нядаўні выпадак. Двое маскоўскіх студэнтаў завіталі ў Мінск на канцэрт. Купілі карту метро, падлічылі, колькі станцый ім трэба праехаць, каб перайсці на іншую лінію. На карце гэтая станцыя абазначалася як *Октябрьская*, а калі выйшлі з вагона, яна аказалася *Кастрычніцкай*. Разгубіліся хлопцы. «Што гэта за прамежкавая станцыя, якая не трапіла на карту», — падумалі яны. Патэлефанавалі сябрам і дазналіся, што ў Беларусі, як яны выказаліся, так прыкра жартуюць з прыезджых.

### «Внести изменения, предусматривающие использование прямого перевода при передаче географических названий с белорусского языка на русский»

Такое распараджэнне прыйшло ў Тапанімічную камісію пры Савеце міністраў.

А ці магчымы ўвогуле прамы (г.зн. дасло́ўны) пераклад нацыянальнай тапаніміі на іншую мову? У сусветнай практыцы такога прэцэдэнту яшчэ не было.

Да тапонімаў нельга падыходзіць як да звычайных слоў, для перакладу якіх можна заўсёды адшукаць патрэбны эквівалент у перакладных слоўніках. Сэнс тапонімаў схаваны пад тоўшчай вякоў. Многія словы даўно выйшлі з ужытку або жывуць у іншых значэннях.

Кожная нацыя развівалася па сваім, толькі ёй уласцівым сцэнары. Сутнасць назваў, якімі мы карыстаемся сёння, раскрываецца толькі ў кантэксце рэалій той эпохі, якая іх спарадзіла.Напрыклад, безнадзейна шукаць эквіваленты для перакладу тапонімаў *Валокі, Маргі, Засценкі, Клеткі, Сярэдняе Сяло, Прыдаткі, Наддаткі, Рэзкі, Рыскі*, спароджаных зямельнай рэформай «Устава на валокі» 1557 г. На тэрыторыі Расіі аналагаў у яе не было.

Калі не ўлічыць гэтыя абставіны, прамы пераклад ператвараецца ў фікцыю. Напрыклад, тапонімы *Вялікі Двор, Вялікае Сяло, Вялікая Слабада*. У княжацкі перыяд такія назвы вёскам даваліся не за памер, а за тое, што належалі вялікім князям. Адпаведна пераклад *Вялікае Сяло* на *Большое Село* з’яўляецца скажэннем. Крыху іншая сітуацыя ў назвах, што ўтвараюць процілеглыя пары: *Вялікае Сяло — Малое Сяло, Вялікія Лепі — Малыя Лепі*. Але і ў гэтым выпадку не трэба спяшацца *Вялікі* замяняць на *Большой*, паколькі ў перыяд узнікнення Вялікі ўжываўся ў сэнсе ‘галоўны, асноўны’.

Ці ёсць выйсце з тупіковай сітуацыі? Ёсць. Трэба ачысціць нацыянальную тапанімію ад наноснага сурагату, вярнуць нашыя спрадвечныя назвы, а тыя, якія сапраўды нясуць у сабе нейкі негатыў, перайменаваць у духу народных традыцый. Так і меркавалася зрабіць падчас працы над даведнікам «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» у шасці тамах. Але нас не падтрымалі мясцовыя ўлады. Ды і сама працэдура вяртання страчаных найменняў аказалася надзвычай складанай.

Па-руску назвы паселішчаў і вуліц варта перадаваць спосабам транслітарацыі (палітарна). У наш час, калі пры ААН створана Група экспертаў па нацыянальнай стандартызацыі, якая выпрацавала рэкамендацыі па перадачы тапаніміі з адной мовы на другую, проста несалідна займацца сумнеўнымі перакладамі. І не ў інтарэсах дзяржавы кідаць цень на міжнародны аўтарытэт краіны, здабыты ў галіне тапаніміі за апошнія дзесяцігоддзі.

Тапонімы — вочы краіны. З глыбіні вякоў яны высвечваюць гістарычны лёс народа, яго культурныя і духоўныя набыткі, яго менталітэт. І зусім ужо непрыстойна ператвараць нацыянальную тапанімію ў разменную манету.

Думаецца, што і нашай уладзе і ўсім нам не ўсё роўна, што будуць высвечваць гэтыя вочы: гісторыю і культуру народа, яго незалежнасць, самабытнасць мовы або нашу нядбайнасць, бяспамяцтва, рабалепства, невуцтва і бескультур’е.

# Паверце Кебічу!

Хачу падзякаваць «Нашай Ніве» за рэцэнзію Андруся Вяткоўскага на маю кнігу «Дзевяноста першы».

Канечне, найперш за станоўчыя (нават, можа, празмерныя) ацэнкі. Не скажу, што было прыемна чытаць крытычныя заўвагі (а якому аўтару яны падабаюцца?) — але цікава.

Рэдакцыя «НН» паведаміла, што хоча апублікаваць і іншыя рэцэнзіі на кнігу — і, магчыма, пазней выкажуся па некаторых закранутых рэцэнзентамі тэмах, але адно прынцыповае ўдакладненне мушу зрабіць зараз.

«С. Навумчык называе В. Кебіча супрацоўнікам або КДБ, або ГРУ, што, на мой погляд, выглядае не вельмі пераканаўча» — піша А. Вяткоўскі.

Калі сцвярджэнне, што чалавек, які ў 1990—1994 займаў пасаду кіраўніка ўраду Беларусі, быў супрацоўнікам спецслужбы, выглядае непераканаўча — прэтэнзіі да гэтага трэба выстаўляць не мне.

Бо я аналізую тое, што сам Вячаслаў Францавіч заявіў у сваёй кнізе «Искушение властью».

Кебіч апісвае, як яшчэ ў час працы інжынерам яго выклікаў у КДБ «капітан Іваноў» і запрасіў на службу, а калі ён адмовіўся — «паклікалі на трохмесячныя курсы вывучэння крыптаграфіі, якія праводзіліся па лініі Галоўнага ўпраўлення выведкі. І пайшло-паехала! Праз паўгода — новыя трохмесячныя зборы і званне лейтэнанта; праз год — яшчэ адны і званне капітана» (стар. 256—266). Гэта значыць, праз адно званне (прамінуў старшага лейтэнанта).

І Кебіч (а не я) піша, як ужо ў 1984 годзе на пасадзе другога сакратара Мінскага абкаму (!) «давялося апошні раз прыгадаць пра сваю прафесію разведчыка», далей — больш вялікая цытата: «...мяне па лініі ЦК КПСС накіравалі ў ФРГ на чале дэлегацыі для абмену вопытам з кампартыяй адной з федэральных земляў. Пра сапраўдны характар гэтай місіі не ведаў ніхто нават у ЦК КПБ. Заданне я выканаў. Больш падрабязна ў дэталі гэтай аперацыі паглыбляцца не буду. Хаця даўно ўжо няма той дзяржавы, якой я прысягаў, і падпіска аб неразгалошванні страціла сваю сілу, але ёсць унутраны абавязак. Я не разумею тых людзей, якія, зняўшы мундзір, спяшаюцца ў палітычных мэтах разбалбатаць усе службовыя таямніцы... Я такім чынам аўтарытэт сабе ніколі не набываў. Дарэчы, і мундзір з гэтай прычыны таксама ніколі не апранаў, хаця маю права яго насіць. Ён вісіць у мяне дома як памяць пра маю незвычайную вайсковую службу» (стар. 267—268).

Мне цяжка сказаць, якія яшчэ доказы павінен быў прывесці Вячаслаў Францавіч, каб ягоныя словы аб прыналежнасці да КДБ альбо ГРУ (у СССР існавалі толькі гэтыя дзве спецслужбы) — выглядалі больш пераканаўча. Ва ўсялякім разе, у мяне няма падставаў не паверыць Кебічу. Я яшчэ дапускаю, што чалавек можа сказаць такое пасля чаркідругой-дваццаць другой гарэлкі, але напісаць і выдаць накладам 50 тысяч асобнікаў...


Вячаслаў Кебіч.

Нідзе не сцвярджаю, што менавіта гэтая прыналежнасць у часы Кебіча перадвызначыла ягоную супярэчлівую ў шэрагу ключавых момантаў пазіцыю — але і цалкам ігнараваць гэтую магчымасць пасля такіх прызнанняў, пагадзіцеся, немагчыма.

Між іншым, у сваёй кнізе я аналізую не менш сенсацыйныя ягоныя прызнанні (і пра вывезеныя ў замежжа актывы КПСС, якія экс-прэм'ер ацэньвае ў 400—500 мільярдаў даляраў, і пра праслухоўванне Лубянкай размоў Шушкевіча на пасадзе старшыні ВС, і пра тое, што на прэзідэнцкіх выбарах 1994 Кебіч з Лукашэнкам працавалі на «агульную перамогу» над БНФ) — але пры гэтым нязменна спасылаюся на кнігу Кебіча. Кнігу, якая, калі б была ўважліва прачытаная гісторыкамі і палітолагамі, прымусіла б больш рэалістычна паглядзець на некаторыя эпізоды найноўшай гісторыі.

**Сяргей Навумчык, Прага**

## Выразалі пра Баўмгертнера

У пятніцу глядзеў вячэрні выпуск навін па НТВ, у анонсе быў рэпартаж пра арышт Баўмгертнера. Вырашыў дачакацца, паглядзець падрабязнасці. Так і не дачакаўся. З асноўнага блока яго выразалі. Мяне цікавіць: у нас што, ёсць нейкі закон аб цэнзуры, які вызначае, што паказваць, а што не? І хто гэтым займаецца? Ці мае права Белтэлерадыёкампанія рэзаць не свае перадачы? Ужо не першы раз заўважаю, што сюжэты пра РБ проста знікаюць. Мне здаецца, што гэта сапраўднае беззаконне.

**Аляксей Купцэвіч**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

## Адмовіўся ад размеркавання? Плаці штраф з улікам дэвальвацыі

Студэнты бюджэтнай формы навучання пасля заканчэння імі тэрміну навучання павінны адпрацоўваць кошт свайго навучання шляхам размеркавання. Здавалася б, студэнт ведаў, на што ідзе: не хочаш адпрацоўваць — плаці. Аднак не ўсё так проста!

Яшчэ ў часы дэвальвацыі 2011 года Савет міністраў выдаў пастанову, згодна з якой выпускнікі не могуць проста ўзяць і аплаціць менавіта столькі, колькі затраціла на іх дзяржава. Для такіх студэнтаў выдуманы асаблівы прайс-ліст, з так званым «карэктуючым каэфіцыентам».

Каэфіцыент разлічваецца шляхам дзялення сярэднямесячнага кошту падрыхтоўкі навучэнца ў апошні каляндарны год падрыхтоўкі на сярэднямесячны кошт падрыхтоўкі аднаго навучэнца за ўвесь перыяд падрыхтоўкі.

Напрыклад, кошт навучання ў беларускіх ВНУ ў апошні каляндарны (2013) год складаў прыкладна 12 мільёнаў рублёў. Да дэвальвацыі кошт навучання складаў прыкладна 3,5 мільёна. Разам сярэднямесячны кошт падрыхтоўкі аднаго навучэнца за ўвесь перыяд падрыхтоўкі складзе прыкладна 4,5 мільёна. Падзяліўшы «12» на «4,5», атрымліваем «2,6». Гэта і будзе каэфіцыент.

Гэта значыць, усе студэнты, якія хочуць аплаціць кошт свайго навучання дзяржаве, павінны аддаць як мінімум у 2,6 раза больш, чым насамрэч было выдаткавана на іх адукацыю.

РАСЧЕТ

суммы средств, подлежащих возмещению в республиканский бюджет, затраченных на обучение
в Белорусском государственном университете
в период подготовки **с 01.09.2007 г. по 30.06.2012г.**

| Годы обучения | Сумма средств, затраченных на подготовку, тыс.рублей | | | | | | Количество полных месяцев подготовки | Среднемесячная стоимость подготовки одного обучающегося за каждый год подготовки и за весь период подготовки |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | всего | в том числе | | | | | | |
| | | текущие фактические расходы | стипендии | расходы на питание | расходы на выплату денежной помощи | расходы, связанные с обучением за рубежом | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 2007 г. | 2 256,2 | 1 769,5 | 486,7 | | | | 4 | 564,1 |
| 2008 г. | 9 045,5 | 7 373,8 | 1 671,7 | | | | 12 | 753,8 |
| 2009 г. | 9 426,2 | 7 680,2 | 1 746,0 | | | | 12 | 785,5 |
| 2010 г. | 10 916,9 | 8 943,5 | 1 973,4 | | | | 12 | 909,7 |
| 2011г. | 17 883,3 | 13 576,5 | 4 306,8 | | | | 12 | 1 490,3 |
| 2012г. | 16 001,1 | 12 623,5 | 3 377,6 | | | | 6 | 2 666,9 |
| **ИТОГО:** | **65 529,2** | **51 967,0** | **13 562,2** | | **0,0** | | **58** | **1 129,8** |

корректирующий коэффициент (два знака после запятой) **2,36**

затрачено средств с учетом корректирующего коэффициента **154 647,024**

**Сто пятьдесят четыре миллиона шестьсот сорок семь тысяч двадцать рублей**
(сумма прописью)

Дата увольнения с места работы по распределению (перераспределению). **19.12.2012 г.**

Не отработано **19** полных месяцев

Подлежит возмещению в бюджет с учетом отработанного срока обязательной работы

**Сто двадцать два миллиона четыреста двадцать восемь тысяч восемьсот девяносто рублей**

**Ректор** **С.В.Абламейко**

Гэткая форма кампенсуе страты ўніверсітэтаў пры дэвальвацыі, аднак укладчыкам банкаў чамусьці ніякіх страт не вярнулі.

**Даслаў Чытач**

## Плаціш карткай? Могуць спытаць пашпарт

Гэтага запатрабаваў Следчы камітэт.

«Мы разумеем вас, але і вы зразумейце. У нас папера са Следчага камітэта, — казала касірка ва ўніверсаме «Байкальскі». — Я распісалася, што без пасведчання асобы па картках тавар адпускаць не будзем. Нашто мне лішнія праблемы, штрафы? Тым больш у вас «Віза», яна без пін-кода».

У Следчага камітэта задача: знайсці злодзея. Ён украў картку і расплаціўся ёй у трох універсамах Заводскага раёна на мільён трыста тысяч. Таму ў мэтах прафілактыкі следчая і запатрабавала ад шэрагу крамаў Заводскага раёна не абслугоўваць уладальнікаў пластыкавых картак, якія не маюць пры сабе пасведчання асобы.

Касіры сапраўды часам недастаткова ўважлівыя. Следчыя праводзілі эксперыменты: мужчыны прыходзілі ў краму і расплачваліся карткай, зарэгістраванай на жаночае імя. І касір нават не звяртаў на гэта ўвагу.

Таму Следчы камітэт спадзяецца, што іх зварот дапаможа зменшыць колькасць злачынстваў з безнаяўным разлікам. Следчыя не загадваюць патрабаваць дакументы ва ўсіх, а толькі ў людзей, якія выклікаюць падазрэнне.

Вось толькі ці дапаможа тое вылічыць злодзея? Зламыснік скажа, што забыў пашпарт і расплаціцца наяўнымі. А картку скарыстае ў іншым раёне.

**Кірыла Хілько**

# Таямніца Дварэцкага

Піша Дзмітрый Гурневіч.

Гэта не таямніца аднаго чалавека. Гэта адбітак лёсу пакаленняў беларусаў, якія, не маючы ўласнай дзяржавы, павінны былі выбіраць меншае зло. За гэтыя выбары даводзілася плаціць.

У лютым 1945 на тэрыторыі Нямеччыны, занятай Чырвонай Арміяй, пачалася прымусовая рэпатрыяцыя савецкіх грамадзян «на радзіму». У лагерах для перамешчаных асоб ішло паляванне на людзей з «віною» перад савецкай уладай. Нават самаму дробнаму чыноўніку беларускай адміністрацыі пры немцах пагражаў смяротны прысуд альбо высылка ў Варкуту.

Тысячы беларусаў схаваліся ад камуністаў у Польшчы. Адракаліся ад сваякоў, пахо-джання, рэлігіі, ад справы ўсяго жыцця. Гісторыя Міколы Дварэцкага — адзін з тысяч беларускіх лёсаў у паваеннай Еўропе.



Дварэцкі (справа) з заходнебеларускімі дзеячамі Альбертам Паўловічам і Пятром Ластаўкай. 1930-я.

### Дэпартацыя з Аўстрыі і ўцёкі ад саветаў

У 1945 ва ўкраінскім лагеры Legen у Зальцбургу з'явіліся савецкія спецслужбісты. Іх цікавілі грамадзяне СССР, якія, у адпаведнасці з пагадненнем паміж Сталіным, Рузвельтам і Чэрчылем, мусілі быць прымусова вернутыя дадому. Сярод «ахвяраў Ялты» ёсць і 42-гадовы Мікола Дварэцкі з Браслаўшчыны. З сотнямі вязняў-беларусаў яго садзяць у цягнік на Усход. Былому войту Мёраў пагражае расстрэл. Добра разумеючы свой лёс, Дварэцкі карыстаецца хвілінай няўвагі аховы і ўцякае з цягніка. Ён апынаецца на захадзе Польшчы, на былых нямецкіх землях. Хаваючыся ад савецкіх агентаў, адгадоўвае бараду і спадзяецца перачакаць найгоршае.

Ае ўлетку яго хапае спецаддзел. Пачынаюцца допыты. Ён выдае сябе за ўраджэнца расейскага Выбарга, якога немцы вывезлі на прымусовыя працы. Спецслужбісты настойваюць на вяртанні «дахаты». Дварэцкі ўцякае ў іх 3-пад носу і хаваецца ў чароце Віслянага заліву. Тры месяцы ён жыве ў лодцы, днюе і начуе на вадзе. Харчуецца бульбай, якую ўначы збірае на палетках у ваколіцы, і рыбай, якую ловіць у заліве. Для сына рыбака гэта не ўяўляе цяжкасці. Толькі кастрычніцкія дажджы і холад прымушаюць Дварэцкага сысці на зямлю.

### Новае жыццё

У ваколіцы Штутава, на балтыйскім узбярэжжы, ён знаходзіць закінутую хату і ідзе прапісвацца ў гміну. Цяпер яго завуць Мікалай Дважэцкі, месцам нараджэння ён запісвае ўсё той жа Выбарг.

Тры наступныя гады Дварэцкі жыве адзін. У 1948, праз абвестку ў газеце, яго знаходзіць каханая з Браслаўшчыны — Вера Шук. Праз год у іх нараджаецца дачка Галіна, а ў 1952 — сын Юрка.

Вера працуе бібліятэкаркай у школе. Мікола нейкі час падрабляе дарожным майстрам, але хутка кідае гэта і пачынае займацца тым, што любіць найбольш — рыбалоўствам і пчалярствам. Дом у Штутаве ён практычна ніколі не пакідае.

Дварэцкія-Дважэцкія жывуць жыццём шараговай польскай сям'і. Нетыповым для чалавека, які з 18 гадоў прысвяціў сябе будаўніцтву незалежнай Беларусі.

### Тут...

Мікола нарадзіўся ў 1903 у Іказні (сённяшні Браслаўскі раён) у праваслаўнай сям'і Васіля і Мар'яны Дварэцкіх. Быў наймалодшым з дзевяці дзяцей браслаўскага рыбака. Скончыў царкоўна-прыхадскую школу, вучыўся на шаўца, адкрыў у Іказні ўласную майстэрню.

Пасля падзелу Беларусі паміж Польшчай і СССР Дварэцкі ўключаецца ў беларускае жыццё. Пад уплывам ксяндза Адама Станкевіча ён становіцца сябрам Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Ужо ў 1922, падчас выбараў у парламент, Мікола дапамагае Беларускаму выбарчаму камітэту на Браслаўшчыне. Публікуе свае вершы ў беларускіх газетах, піша артыкулы. Праз чатыры гады ён узначальвае суполку Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры.

У роднай Іказні Дварэцкі сабраў багатую беларускую бібліятэку. Некалькі разоў яе канфіскоўвала польская паліцыя, але за кожным разам ён рупліва яе аднаўляў. За прапаганду беларускіх кніг і газет ён двойчы сядзеў у Лукішскай турме.

У лістападзе 1928 у Вільні адбываецца з'езд Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. 25-гадовы Дварэцкі ўваходзіць у склад Цэнтральнага камітэта партыі і становіцца намеснікам сакратара Яна Пазняка. Апрача гэтага, Дварэцкі ўзначальвае праваслаўную фракцыю БХД. На малой радзіме ён здабывае аўтарытэт як абаронца беларусаў ад пераследу польскай адміністрацыі, праз рэпрэсіі піша ў прэсу.

Дварэцкі быў антыкамуністам. Калі на сувязь з БХД выйшла Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, ён пераконваў калегаў, што з КПЗБ нельга мець нічога супольнага, бо яна цалкам залежыць ад Масквы. Аднак прыход Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 Дварэцкі сустракае з энтузіязмам. Перш за ўсё з надзеяй на развіццё асветы і культуры беларусаў. Яму дазваляюць арганізаваць беларускую школу пад Браславам, ён робіцца яе дырэктарам. Але хутка камуністы ператвараюць школу ў расійскую. Дварэцкі ізноў займаецца садоўніцтвам і пчалярствам.

У чэрвені 1941, з пачаткам вайны, у Іказні ўтварылася самаабвешчаная польская паліцыя. Дварэцкага схапілі як «камуніста» і ўжо вялі на расстрэл. Шчасце, што дазналіся бацька і браты Міколы, самасуду ўдалося пазбегчы. Калі прыходзяць немцы, хтосьці высылае данос у гестапа, што Дварэцкі камуніст. Яго кідаюць у браслаўскую турму. Але за Міколу заступаецца браслаўскі староста. Дварэцкага не толькі вызваляюць, але і прызначаюць войтам Мёраў. Там ён знаёміцца з прыгажуняй, будучай жонкай Верай Шук, выпускніцай Віленскага ўніверсітэта, якая працуе ў Мёрах перакладчыцай. У нямецкай адміністрацыі ўладкоўваюцца і браты Міколы. Павел быў войтам у Браславе, Юзаф — у Параброддзі, Аўгустын — школьным інспектарам у Браславе. Усіх іх, апрача Міколы, пасля вайны сустрэў той самы лёс: арышт і Сібір.

Яшчэ два браты Міколы, Ян і Павел, пасля падзелу Беларусі ў 1921 апынуліся ў СССР, працавалі чыноўнікамі. У 1938 іх расстралялі за антысавецкую агітацыю: аднаго ў Ленінградзе, другога ва Украіне.

### Там...

У сярэдзіне 50-х з Сібіры пачалі вяртацца сябры Дварэцкага. Шмат хто з іх прыехаў у Польшчу, бо ў БССР яны былі непажаданымі асобамі. Этнограф Мар'ян Пецюкевіч, які правёў 8 год у лагерах за тое, што пры немцах працаваў школьным інспектарам, быў частым госцем у доме Дварэцкіх. Штогод на 25 Сакавіка Дварэцкія святкавалі Дзень Волі ў коле самых блізкіх сяброў.

Больш ніхто пра беларускую дзейнасць Дварэцкага не ведаў. Калі малыя дачка Галіна і сын Юрка хацелі высылаць лісты ў рэдакцыі газет, бацька прасіў іх лішні раз не афішаваць сваё прозвішча.

У Польшчы Дварэцкі працягваў пісаць вершы. Калі ў 1956 пачала выходзіць газета беларусаў «Ніва», ён высылаў іх у Беласток пад псеўданімам Мікола Базылюк. Разам з жонкай Верай яны былі ініцыятарамі культурнага жыцця ў наваколлі. Арганізавалі хор, гралі на розных інструментах. Нядаўна выявілася, што рэпертуар складаўся з перакладаў на польскую беларускіх вершаў Дварэцкага.

У 1960-я ў Гданьску ўтварылася першая беларуская арганізацыя, але ў яе сядзібе Дварэцкі ані разу не з'явіўся. Была рызыка, што пазнаюць і дэпартуюць у СССР. Пасляваенныя беларускія арганізацыі ў Польшчы часта выкарыстоўваліся агентамі спецслужбаў, каб выяўляць беларускіх дзеячоў. Шмат каго з беларусаў праз шантаж удалося завербаваць. Але пра беларускае жыццё ў Польшчы Дварэцкі ведаў дасканала, бо ад першага нумара з'яўляўся падпісчыкам «Нівы».

### Настальгія і апошнія дні

Самай блізкай асобай, якой Мікола Дварэцкі бязмежна давяраў, быў яго стрыечны брат Язэп, які да сёння жыве ў Калабжэгу. Свой сум Мікола выліваў у лістах да яго: «Ты адзін, каму я магу пісаць на роднай мове. Гляджу я на бібліятэку: столькі кніжак! Але хто іх будзе чытаць пасля маёй смерці? Былі прычыны, што ані сын, ані дачка, не пайшлі слядамі бацькоў...»

Перад смерцю, калі Дварэцкі ўжо не мог размаўляць, ён папрасіў знакам у дачкі паперу і асадку ды з цяжкасцю накрэмзаў: «Я праваслаўны». 15 жніўня 1988 Мікола Дварэцкі памёр.

Незадоўга перад тым ён усё ж адважыўся скантактавацца з гданьскай беларускай Ганнай Іванюк. Ёй Дварэцкі перадаў рукапісны зборнік сваіх вершаў. Такія ж сшыткі ў розныя гады ён дарыў самым блізкім сябрам. Адзін пасля смерці бацькі знайшоў сын Юрка.

Многія таямніцы бацькі засталіся не раскрытыя нават дзецьмі. Але галоўную ведалі тыя, ад каго Дварэцкі так старанна хаваўся ўсё жыццё. Паводле дакументаў Інстытута нацыянальнай памяці, які апрацоўвае архівы польскіх спецслужбаў, за Дварэцкім з канца 50-х сачыла Служба бяспекі.

Асэнсоўваць сваю генетычную беларускасць дзеці Дварэцкага пачалі пасля смерці бацькі. Імпульсам стала знаёмства з беларускім гісторыкам з Гданьска Аленай Глагоўскай, якая шмат гадоў прысвяціла разгадцы таямніцы Дварэцкага. Яна дапамагала Юрку Дварэцкаму выдаць кнігу бацькавых вершаў. Сёння сын актыўна ўдзельнічае ў беларускім жыцці ў Гданьску. Замест бацькі, які палову жыцця быў вымушаны хаваць сваё паходжанне і мінулае.


Дварэцкі (справа) з жонкай Верай і іх сябра Пецюкевіч.

## Глагоўская: Саветы бачылі пагрозу ў беларускім нацыянальным руху

**— Страх перад камуністамі пасля вайны прымусіў сотні тысяч беларусаў хаваць нацыянальнасць. Прытулку ад дэпартацыі і смерці многія з іх шукалі ў паваеннай Польшчы. Чаму не ехалі далей на Захад?**

**Алена Глагоўская:** Беларусы спадзяваліся на чарговую вайну і лічылі, што гэта выгнанне — часова. А Польшча была побач з Беларуссю. Парадкі тут былі больш ліберальныя, чым у СССР. Абы далей ад савецкай улады, але бліжэй да Беларусі.

**— Колькі беларусаў зазналі пераслед спецслужбаў?**

**АГ:** Дастаткова зірнуць на дакументы ў архіве Інстытута нацыянальнай памяці Польшчы. Гэта прозвішчы, якія нічога нікому не кажуць. Малавядомыя рэгіянальныя дзеячы, але іх было вельмі шмат.

**Чаго яны баяліся найбольш?**

**АГ:** Дэпартацыі ў СССР. Да 1948 там каралі смерцю за здраду Савецкаму Саюзу. Нагодай для артышту магло быць нават настаўніцтва ў часы акупацыі. Але ў любую акупацыю хтосьці павінен выконваць гэтую працу. Так было паўсюль у акупаванай Еўропе.

**— Навошта было пераследаваць настаўнікаў і солтысаў, якія фактычна не мелі ніякай улады?**

**АГ:** Камуністы бачылі пагрозу ў беларускім нацыянальным руху. Калі б гэта была маргінальная з'ява, як некаторыя сцвярджаюць, то камуністы не шукалі б з такой жарсцю беларусаў і не было б гучных працэсаў

Гутарыў ДГ

**Алена Глагоўская**
гісторык, прафесар Беластоцкага ўніверсітэта.

## ІМПРЭЗЫ

### Фестываль феерверкаў

**21 верасня ў Ваўкавыску** адбудзецца II Міжнародны фестываль феерверкаў з удзелам найлепшых піратэхнічных каманд Украіны, Расіі, Літвы і Беларусі. Месца запуску феерверкаў — гарадзішча Шведская Гара, пачатак спаборніцтваў па шатакан каратэ-до і канцэртнай праграмы — а 15-й, выступаў піратэхнічных камандаў — у 21.30.

### Рок па вакацыях

**13 верасня а 18-й у клубе «Цэнтр» (пл. Кастрычніцкая, 1; Палац Рэспублікі)** пройдзе штогадовы фестываль беларускай музыкі «Рок па вакацыях». Выступяць музыкі, якія гралі яшчэ на першых фестывалях: N.R.M., «Крама», Neuro Dubel, «Палац», Кася Камоцкая. Да іх далучацца гурты, якія атрымалі папулярнасць у апошнія гады, — Re1ikt, Naka, «Змяя». Яшчэ адным сюрпрызам стане выступ расійскага рок-музыкі Вадзіма Курылёва, удзельніка гуртоў «Электрические партизаны», «Разные люди», ДДТ.

## КАНЦЭРТЫ

### Дабрачынны канцэрт добрай музыкі

**4 верасня а 18-й у клубе RE:PUBLIC (Прытыцкага, 62)** — Дабрачынны канцэрт добрай музыкі. Усе сродкі, сабраныя падчас канцэрта, будуць пералічаны на патрэбы Беларускага дзіцячага хоспіса.

### Крама

**4 верасня а 19-й ў «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — сустракаем доўгачаканую восень з сольным канцэртам «Крамы».

### Разбітае сэрца пацана

**6 верасня а 19-й у клубе «Цэнтр» (пл. Кастрычніцкая, 1, Палац Рэспублікі)** — гурт «Разбітае сэрца пацана».

### Віктар Шалкевіч

**8 верасня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — творчы вечар Віктара Шалкевіча і К.

### Паліна Рэспубліка

**9 верасня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** —акустыка: Паліна Рэспубліка.

### Аляксандр Баль

**10 верасня а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — канцэрт Аляксандра Баля.

## ВЫСТАВЫ

### Выстава беларускага дызайну ў Варшаве

**Ад 7 да 15 верасня ў галерэі Soho Factory (Варшава, вул. Мінская 25, будынак 63)** працуе выстава беларускага дызайну. Сучасны беларускі прадметны дызайн будзе прадстаўлены ў Варшаве аб'ектамі Максіма Шняка, Ігара Салаўёва, выпускніка БДАМ 2013 года Дзмітрыя Салка ды іншых дызайнераў.
Адкрыццё — 7 верасня а 16-й.

### Святло майго горада

**Да 29 верасня ў Мінскай гарадской ратушы** працуе выстава Алеся Шатэрніка «Святло майго горада». На выставе прадстаўлены работы з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея, Беларускага саюза мастакоў, з калекцыі аўтара.

### Мінскі час

**У Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе фотавыстава Народнага фотаклуба «Мінск» «Мінскі час», на якой прадстаўлена каля 60 фотаздымкаў з відамі Мінска канца XIX — пачатку XXI стагоддзяў.

### Бачнае — Невымоўнае

**Да 14 верасня ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава прац педагогаў кафедры фатаграфіі Мастацкага ўніверсітэта ў Познані «Бачнае — Невымоўнае». Фатаграфію звычайна разумеюць як медыя-сродак, што адлюстроўвае бачную рэчаіснасць. У рамках выставы «Бачнае — Невымоўнае» ўвазе гледача прапануюцца фатаграфіі, якія адыходзяць ад звычайных стэрэатыпаў.

### Наваградскі край вачыма Канута Русецкага

**Да 30 верасня ў партрэтнай зале Мірскага замка** адбываецца выстава мастацкіх твораў Канута Русецкага, падрыхтаваная сумесна з Бібліятэкай Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх. На выставе 27 эскізаў і малюнкаў славутага мастака XIX стагоддзя.

## ТЭАТРЫ

### 4 верасня

Купалаўскі — «Самотны захад»

### 5 верасня

Купалаўскі — «Самотны захад»
Оперы і балета — «Вітаўт»

### 6 верасня

**Оперы і балета** — «Вітаўт»
Беларускай драматургіі — «Тры Жызэлі»

Кандытарская Кампанія Івкон www.ivkon.by

Івянецкі музэй традыцыйнай культуры

ЦУКЕРКАВЫ ФЭСТ ІВКОН

Фэстываль салодкі, новы, адмысловы, верасовы!

7-га верасня 2013
г.п. Івянец

Пачатак - 13.00 ад плошчы Свабоды

Асноўная дзея – на сядзібе Пятра Дарагунцава

Заканчэнне - 20.00

Спіс удзельнікаў:
Гурт «PAWA»: FolkTronika

г.п. Івянец 70 км

Konstantin VERMONTOV

Даведкі па тэлефонах:
+375 17 216-19-76,
+375 1772 53-5-83,
МТС: +375 29 270-41-78,
Life: +375 25 927-00-87

#ЦУКЕРКАВЫФЭСТ

Holiday.by

**7 верасня а 13-й у Івянцы** — Цукеркавы фэст Ivkon. Вас чакаюць рамантычныя івянецкія легенды, шчодры рамесны кірмаш, нацыянальныя стравы, напоі ды прысмакі, рыцарскія бойкі, дэгустацыя цукерак «Івкон», жывая музыка, спевы, танцы, гульні, конкурсы, шляхецкія спрэчкі-пацехі, вечаровае фаер-шоу і вогнішча. Возьмуць удзел анімацыйны тэатр «Майстэрня ўражанняў», гурт PAWA, гурт «Лютавер'е» (фолк-метал), гурт «Вырай» (этна-дыска), вандроўны тэатрык «Гістрыён», гурт «Сёмуха», этнагурты «На таку» і Dzivasil, гудзьбітны гурт «Літы Талер».



### Беларусь — Францыя

**10 верасня ў Гомелі** пройдзе адборачны матч да чэмпіянату Еўропы па футболе. Беларусь прымае Францыю. Пачатак а 21:30. Цана — ад 80 да 200 тысяч. За чатыры дні да гэтага, 6 верасня, у Жодзіне адбудзецца яшчэ таварыская сустрэча зборных Беларусі і Кыргызстану. Пачатак а 19.

### 7 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 8 верасня

**Оперы і балета** — «Турандот»

### 9 верасня

**Оперы і балета** — «Турандот»

### 10 верасня

**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Оперы і балета** — «Жызель, альбо Віцісы»

### 11 верасня

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»
**Беларускай драматургіі** — «Ціхі шэпт зыходзячых крокаў»

### 12 верасня

**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Анюта»
**Беларускай драматургіі** — «Ціхі шэпт зыходзячых крокаў»

### 13 верасня

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Ігвіта, альбо як гэта рабілі ў Францыі»

### 14 верасня

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 15 верасня

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Оперы і балета** — «Тоска»

## КІНО

### Амбітны кукурузнік

Самалёты
Мультфільм; камедыя, прыгоды
Рэжысёр: Клэй Хол
У ролях: Дэйн Кук, Стэйсі Кіч, Брэд Гэрат, Тэры Хэтчар, Джулія Луіс-Дрэйфус, Прыянка Чопра
ЗША, 92 хв.

Сельскагаспадарчы самалет Дасцін Паліполе ўсё жыццё марыць трапіць на спаборніцтвы самых хуткіх самалётаў, але вымушаны дзень за днём паліваць агароды суперфасфатам. Аднойчы, усё-ткі паспрабаваўшы сябе ў адборачным туры, ён нечакана трапляе ў дваццатку ўдзельнікаў кругасветнай гонкі. Асабістым трэнерам Дасцін выбірае старога знішчальніка Шкіпера, бо сам кукурузнік, лётаючы ўсё жыццё толькі над полем, баіцца вялікай вышыні. Да таго ж яго галоўны супернік — чатырохразовы чэмпіён Рыпслінгер, зласлівы і ганарысты.

Мультфільм расказвае гісторыю маленькага, але амбітнага кукурузніка, які ідзе да сваёй мары праз любыя перашкоды. У свеце, дзе няма людзей. дзе існуюць толькі машыны рознага кшталту, добры і шчыры Дасцін знаходзіць сабе сяброў нават паміж супернікаў.

Стужка, вядома, найперш спадабаецца дзецям, але прывабіць і аматараў тэхнікі, бо насычаная спецыфічнай тэрміналогіяй і шматлікімі мадэлямі самалётаў і машын.

**Настасся Уласава**



# Аўтавакзал Цэнтральны запрацаваў напоўніцу

**Адкрыліся крамы, рэстараны і паркоўка.**

Гандлёвы цэнтр «Галілея» над сталічным аўтавакзалам «Цэнтральны» адкрываецца ў некалькі заходаў. Спачатку запрацавалі супермаркет «Суседзі» і крама тэхнікі «Электрасіла», а цяпер — астатнія магазіны.

На верхнім паверсе адкрыўся другі мінскі фуд-корт — некалькі рэстаранчыкаў, аб'яднаных агульнай прасторай. У «Галілеа» прадстаўленыя фаст-фуд Funny Chicken, пякарня Buvette, піцэрыя Presto Pizza, італьянскае марожанае «Людзям падабаецца», а таксама рэстаран New York Hotdogs, у меню якога прысутнічае толькі адзін хот-дог за 20 тысяч рублёў.

Цэны на ежу сярэднегарадскія. За малочны кактэйль папросяць каля 30 тысяч рублёў, за піцу — 50-70 тысяч, за сэндвіч — каля 20 тысяч.

У першыя дні працы гандлёвага цэнтра пакупнікам трэба быць гатовымі да нязручнасцяў. Сядзячых месцаў некалькі дзясяткаў, усім астатнім наведнікам даводзіцца масціцца на падваконнях.

Запрацаваў і паркінг, які дапаможа разгрузіць Прывакзальную плошчу ад прыпаркаваных аўтамабіляў. Пакуль на ім могуць пакінуць машыны 150 кіроўцаў. Пасля з'явяцца месцы яшчэ для 350 аўто.

Цікавая і сістэма аплаты. Першыя тры гадзіны аўто могуць стаяць бясплатна, але за кожную наступную гадзіну давядзецца заплаціць па 50 тысяч рублёў. Гэта будзе заахвочваць пакупнікоў хутка вырашаць свае справы. Сістэма пакуль не аўтаматызаваная: падлікі праводзіць спецыяльна навучаная дзяўчына за ноўтбукам.

**Ягор Марціновіч**






## Ад чаго паміраюць беларусы?

**По дзве тысячы чалавек атруціліся алкаголем і скончыла жыццё самагубствам.**

Летась у Беларусі памерла 126 531 чалавек. Гэта найменшы паказчык за апошнія гады. На падставе дадзеных Белстата мы склалі спіс самых частых прычынаў смерці. Адзначым, што ад прычын, не звязаных са здароўем, памерла 11,5 тысяч беларусаў (каля 9%).

**Прычыны смерці беларусаў:**

1) Хваробы сэрца і сасудаў — 52,6%

2) Ад старасці («сімптомы, прыкметы і адхіленні ад нормы, выяўленыя пры клінічных і лабараторных даследаваннях») — 14,1%

3) Рак — 14,1%

4) Хваробы страўніка — 3,4%

5) Самагубства — 1,5% — 1949 чалавек

6) Выпадковае атручанне алкаголем — 1,5% — 1918 чалавек

7) Хваробы нервовай сістэмы — 1,4%

8) Хваробы псіхікі — 1,1%

9) Загінулі ў ДТЗ — 1%

Іншыя прычыны, не звязаныя са здароўем — 5%

Іншыя хваробы — 4,3%

**ЯМ**

## Вышыванкі каштуюць ад $80 да $800

*Падкажыце, калі ласка, дзе ў Менску можна набыць вышыванку?*

*Аляксандр Аляксеенка, Асіповічы*

Самы шырокі асартымент вышыванак прапануе сайт унітарнага прадпрыемства "Скарбніца" skarbnica.by. Тут ёсць як вышыванкі масавай вытворчасці, так і вышыванкі аўтарскай работы, выкананыя па старых рэгіянальных узорах. Можна знайсці лельчыцкі, пінскі, мотальскі ды іншыя строі.

Дзіцячая вышыванка каштуе ў сярэднім 370 000 беларускіх рублёў, за нацыянальную сукенку давядзецца аддаць ля 600 тысяч, а вось класічная мужчынская вышыванка каштуе 865 тысяч.

На мадэлі і строі, якія робіцца пад замову, цэны зусім іншыя. Такія мадэлі ствараюцца толькі пад замову.

Шмат прапановаў вышыванак можна знайсці на форумах і інтэрнэт-аўкцыёнах. Цэны таксама розныя: ад $85 за патрыманую вышыванку да $800 за вясельны строй пад замову.

Зрэшты, зрабіць сабе вышыванку можна ў звычайных атэлье. Ільняное палатно каштуе прыблізна 75 тысячаў за метр, а зрабіць адпаведны густам арнамент і пакрой будзе каштаваць ад 300 тысяч рублёў.

Дзіўнавата выглядае тое, што беларускія сувенірныя крамы надаюць мала ўвагі нацыянальнаму адзенню. У Кіеве вышыванкі прадаюцца нават у падземных пераходах, і турысты ахвотна купляюць. У Беларусі было б тое самае.

**Юрась Ускоў**



На волі Павел Севярынец заўсёды хадзіў у вышыванцы.

## Сцісла

### Ездзіць «зайцам» стала дорага

28 жніўня ўступілі ў сілу змены ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях. Паводле іх, штраф за паездку «зайцам» ва ўсіх відах гарадскога транспарту павялічыўся ад 20 да 50 тысяч рублёў а ў электрычках — ад 50 да 70 тысяч рублёў.

### За стагоддзе еўрапейцы выраслі на 10 см

Сёння сярэдні рост 21-гадовага еўрапейца складае 1,79 метра. У пачатку XX стагоддзя мужчыны былі ніжэйшымі на 10 см. Як сцвярджаюць навукоўцы, росту спрыялі агульны рост дабрабыту, паляпшэнне жыллёвых умоў і павышэнне сярэднягa ўзроўню адукацыі еўрапейцаў. Высветліць, наколькі змяніўся сярэдні рост жанчын, навукоўцы не змаглі праз адсутнасць вайсковых запісаў.

### Брытанец носіць шкарпэткі 25 гадоў

55-гадовы Фрэнк Тэрнбрыдж — уладальнік самай трывалай пары шкарпэтак у свеце. «Цяпер я нашу іх толькі па выхадных, і толькі толькі нядаўна ў іх з'явілася першая дзірка», — заявіў ён. Сам Фрэнк не ведае сакрэту такога даўгалецця, адзначаючы, што надзявае іх і зімой, і летам. «Мая жонка мые іх кожны тыдзень, яны вельмі зручныя», — кажа Тэрнбрыдж.

## Прыватныя абвесткі

**КВАТЭРА**

Мяняю 1-пакаёвую кватэру ў цэнтры Віцебска — 31 кв. м., 4-ы паверх 5-павярховага дома, балкон, тэлефон, добры стан на кватэру ў Разані альбо іншых гарадах Расіі без даплаты. Т.: (0212) 25-80-79

**АДДАМ**

Аддам кацянятаў у добрыя рукі. Нарадзіліся 15 сакавіка, прывучаныя да латочка. Т.: 8 (017) 294-48-21. Наталля

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!



**Захад рыхтуецца нанесці ўдар па Сірыі. Ізраіль таксама рыхтуецца да баявых дзеянняў. На фота: салдат ізраільскай арміі настройвае прыцэл танка на Галанскіх вышынях. Фармальна Ізраіль і Сірыя знаходзяцца ў стане вайны.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Мінчукі чакаюць аўтобус.**



**Прэзідэнт Шры-Ланкі Махінда Раджапакса тэстуе беларускія аўтобусы МАЗ. На мінулым тыдні лідар астраўной дзяржавы наведаў Мінск.**



**У Мінск прыйшла восень. Нават сталічныя скульптуры пачалі нарыхтоўваць гародніну.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Мясніковіч запрашае Анішчанку ў Мінск на перамовы па пастаўках беларускага малака.

* * *

Адзін дасведчаны прэм'ер-міністр скончваў перамовы фразай: «А цяпер бяжы!»

* * *

Гламурная мінчанка прыехала да бабулі ў вёску.

— Бабуля, куды тут у вас вечарам можна схадзіць?

— На вядро.

* * *

А памятаеце галодныя гады? Інтэрнэт па картках...

* * *

Калі размарожваеш рыбу, у яе вачах можна ўбачыць нямое пытанне: «Які цяпер год?»

* * *

Рабіновіч гандлюе на базары рыбай. Да яго падыходзіць падатковая:

— У вас ёсць дакументы на рыбу?

— А што, вам пасведчанне аб смерці прад'явіць?

* * *

Калі маёмасць Керымава канфіскуюць, усіх гульцоў ФК «Анжы» перададуць салігорскаму «Шахцёру».

* * *

Школьнікі з гуртку «Юны Амапавец» разагналі ўжо трэці бацькоўскі сход.

* * *

Я выбіраю здаровую ежу. Таму на вячэру ў мяне сёння пяць здаровых свіных адбіўных са смажанай бульбай.

* * *

На дзень нараджэння да ліфцёра можа прыйсці толькі шэсць чалавек агульнай вагой не больш за 625 кілаграмаў.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Горад Нясвіж** па чыстаце і парадку займае першае месца паміж усіх мястэчак на Беларусі. Гарадок з добра выбрукаванымі вуліцамі з тратуарамі, з газажараванымі ліхтарнямі, дамы больш мураваныя, чысценькія. На брукаваным рынку стаіць вялікі старасвецкі ратуш, у ім памяшчаецца гарадская ўправа і грамадзянскія ўстановы, ёсць тут і вялікая зала з хорам і сцэнай для тэатру.

**«НН». №34. 1913.**

**Спрэчка Ведзьмакоў.** Разгаданая таямніца аўтарства «Сказа пра Лысую гару». У аўтарстве прызнаўся Ніл Гілевіч. Аднак літаральна праз тыдзень пасля гэтага выступіў абураны Мікола Аўрамчык: «Гілевіч не сам пісаў паэму, мы пісалі ўдвух».

**«НН». №33. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8007. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 03.09.2013.
Замова №3867.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

